

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 33 (13565)

10 — 16 жніўня 1992 года

Кошт 3 рублі.

*У нумары:*



## ЛУСТА ХЛЕБА – ГЭТА ТАК ШМАТ

*Праблемы і надзеі працаўнікоў племзавода "Леніна", старонкі 4—5*

Ф. СП-1

Министерство связи РБ
Министерство информации РБ
"Белсоюзпечать"

АБОНЕМЕНТ на газету 63129 (индекс издания)

Чырвоная змена

Количество комплектов:

на 1993 год по месяцам

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куда (почтовый индекс) (адрес)

Кому (фамилия инициалы)

ПВ | место | литер | на газету 63129

Чырвоная змена

| Стоимость | подписки | ___ руб. ___ коп. | Количество комплектов: |
|---|---|---|---|
| | переадресовки | ___ руб. ___ коп | |

на 1993 год по месяцам

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куда (почтовый индекс) (адрес)

Кому (фамилия инициалы)

КОЖНАМУ СВЯДОМАМУ БЕЛАРУСУ — ПА "ЧЫРВОНЦЫ"!



Падпісны кошт на "ЧЗ" у будучым годзе: на месяц — 13 рублёў; на 3 месяцы — 39 рублёў; на паўгоддзе — 78 рублёў

## Нацыянальны архіў

### НАРОДУ — ПРА ПАРТЫІ...

Зараз усё часцей (і гэта вельмі і вельмі радуе) з"яўляюцца публікацыі, тэле- і радыёперадачы, кнігі, выданні, прысвечаныя вяртанню бел...русам годнасці, гонару за сваю гісторыю і культуру.

Нацыянальная бібліятэка Беларусі прыпаднесла людзям падарунак, пачаўшы выдаваць штомесячны бібліяграфічны бюлетэнь "Новыя кнігі Беларусі". Кожны нумар яго суправаджаецца дадаткам — бібліяграфічным спісам.

Так, дадатак да шостага нумара бюлетэня, які нядаўна выйшаў у свет, прысвечаны партыям, рухам і іншым грамадскім арганізацыям Беларусі.

Як паведамілі ў Нацыянальнай бібліятэцы, спачатку ў спісе ідзе літаратура, прысвечаная агульнаму аналізу розных партый, груповак, рухаў. Некаторыя раздзелы прысвечаны найбольш вядомым у рэспубліцы партыям. Маецца літаратура пра блок дэмакратычных сіл "Новая Беларусь", пра крызіс кампартыі і спробы яе адраджэння.

Пазнаёміцца ж з матэрыяламі бюлетэня "Новыя кнігі Беларусі" можна ў бібліятэках рэспублікі. Застаецца толькі дадаць, што бюлетэнь гэты павінен зацікавіць усіх, каму неабыякава будучыня беларусаў, і хто не хоча заблытацца ў кругавароце сённяшніх падзей.

### АДНЫХ ДЭМАНЦІРУЕМ, ДРУГІХ ПАДЫМАЕМ НА ШЧЫТ?

Нядаўна ў Гародні прайшла сесія абласнога Савета народных дэпутатаў. У прынятым на ёй рашэнні прадугледжана распрацаваць абласную праграму кансервацыі, абнаўлення помнікаў архітэктуры, старадаўніх паркаў і цэнтраў гістарычнай забудовы. Каб у гэтай справе не было матэрыяльных праблем, плануецца стварыць сацыяльны фонд з бюджэтных і іншых сродкаў. Да 200-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча намечана адкрыць літаратурна-гістарычны комплекс, прысвечаны паэту.

Адным з пунктаў рашэння сесіі было стварэнне ў бліжэйшыя гады на Гродзеншчыне мемарыяла нацыянальнага героя Беларусі Кастуся Каліноўскага. У мемарыял увойдуць адноўленая сяліба, музей.

*Спяшайцеся*

### Будуць дзвюкі, песні і вогнішча

У Беларусі не гэтак і шмат фестываляў нацыянальнай бардаўскай песні, але затое зайздросную стабільнасць праяўляюць Беластоцкі ды Аршанскі фэсты. Пра бардаўскую частку беластоцкага "Басовішча-92" мы пісалі крыху раней. Цяпер жа спяшаемся паведаміць, што распачатая год таму традыцыя фестываляў "Бітва пад Воршай" будзе мець працяг і сёлета.

Калі вы хочаце адчуць, што гэта можа быць, дык разгарніце "Нотны аркуш" № 17 (188) у "Чырвонай змене" за 8 лістапада мінулага года, дзе мы змясцілі рэпартаж Ю. Копціка "На месцы Аршанскае бітвы ралля..." і плакат-постар з фестывалю.

А мо і без напамінкаў памятаеце тую публікацыю? Тады збірайцеся ў дарогу: 5 верасня на Крапівенскім полі адбудзецца чарговы бардаўскі фэст "Бітва пад Воршай-92". Запрашаюцца ўсе, хто жадае, хто ўмее спяваць беларускія песні або любіць іх слухаць. Тых, хто прыбудзе, 5 верасня на аршанскім вакзале ад 9-й да 12-й гадзіны будзе чакаць аўтобус.

Пажадана мець з сабою намёт і гітару, а свежае паветра ды фестывальнае вогнішча гарантуецца.

Вітаўт Мартыненка.

## Стоп-факт

### 58 ужо ёсць. Хто наступны?

Беларусь з кожным днём набывае ўсё больш і больш сяброў за мяжой. Так, 12 жніўня былі ўстаноўлены дыпламатычныя адносіны паміж нашай рэспублікай і Рэспублікай Сінгапур. Гэта адбылося шляхам абмену нотамі паміж міністэрствамі замежных спраў двух дзяржаў.

А ўсяго, як паведамілі ў Міністэрстве замежных спраў, колькасць краін, з якімі Беларусь мае зараз дыпламатычныя адносіны, дасягнула 58. Ну што ж, як гаворыцца, не май сто рублёў... Будзем чакаць, якая краіна будзе наступнай у жаданні супрацоўнічаць з нашай рэспублікай.

### Замежжа ў Беларусі, і Беларусь за мяжой

Пасля абвяшчэння нашай рэспублікай сваёй незалежнасці ў нас, як і ў кожнай суверэннай дзяржаве, пачалі з'яўляцца замежныя пасольствы. А колькі іх ужо дзейнічае?

Як паведамілі нам у Міністэрстве замежных спраў Беларусі, у нашай рэспубліцы на сённяшні дзень дзейнічае ўжо адзінаццаць пасольстваў замежных дзяржаў: Балгарыі, Германіі, Індыі, Італіі, Кітая, Польшчы, Францыі, ЗША, Турцыі, Румыніі і Украіны.

Беларусь таксама мае сваё пасольства за мяжой — у Польшчы. У хуткім часе з'явіцца другое — у Ізраілі. Але гэта, трэба думаць, яшчэ толькі пачатак. Бо Беларусь жа яшчэ толькі-толькі пачынае свой самастойны шлях.

### Зброя будзе. Але не для ўсіх

Нядаўна адбылася прэс-канферэнцыя міністра ўнутраных спраў РБ генерал-лейтэнанта Уладзіміра Ягорава. Асноўнае пытанне, што паўстала на прэс-канферэнцыі, — аб свабодным продажы зброі. У.Ягораў заявіў, што пра гэта не можа быць і гаворкі. Калі зброя і з'явіцца ў продажы, то толькі газавая і гладкаствольная.

Тым больш, што нават тая агнястрэльная зброя, якая зараз знаходзіцца на руках, і так прыносіць шмат турбот і праваахоўным органам, і іншым грамадзянам.

Так што, паважаныя суайчыннікі, зброі не будзе. А для самаабароны можна параіць толькі ўсходнюю барацьбу або... хуткія ногі.

### Парашутны спорт? Гэта рэальна!

Нядаўна ў Бабруйску завяршыўся першы нацыянальны чэмпіянат Рэспублікі Беларусь па парашутнаму спорту. У ім прымалі ўдзел спартсмены 16-ці каманд з усіх абласцей рэспублікі. Але не трэба думаць, што парашуты — гэта справа толькі для мужчын. Бо на гэтым чэмпіянаце ў барацьбе ўдзельнічала ажно палова жаночых каманд.

Усяго ж у Бабруйску дэманстравалі сваё майстэрства 72 чалавекі. З іх — 27 майстроў спорту РБ і майстар спорту міжнароднага класа Мікалай Чакайла.

Пасля напружанай барацьбы адназначна былі названы пераможцы. Імі і сярод мужчын, і сярод жанчын сталі каманды горада Віцебска.

### Знаёмцеся: "КЛОПАТ"

Пры аддзеле сацыяльнага забеспячэння Фрунзенскага райвыканкама Мінска працуе першы ў рэспубліцы спецыяльны фонд падтрымкі маламаёмных "Клопат".

Рахунак фонду папаўняюць ахвяраванні арганізацый і прадпрыемстваў, даходы з праводзімых райвыканкамам аўкцыёнаў. Апошні з іх прынёс 2,5 мільёна рублёў. Дапамагаюць фонду і кааператывы "Меркурый" і "Вектар".

Гэта ўсё дае магчымасць праводзіць лячэнне дзяцей у платных клініках, аказваць грашовую дапамогу маламаёмным пенсіянерам.

## Правінцыяльная хроніка

### СВАЁ ЖЫЛЛЁ

Апошнім часам у Ляхавіцкім раёне набірае абароты прыватызацыя жылля.

Толькі за першае паўгоддзе прададзена 577 кватэр агульнай плошчай 35501 квадратны метр. Гэта ў 5,7 раза перавышае мінулагоднюю лічбу. Прыватызуецца жыллё і ў сельскай мясцовасці. Толькі ў гэтым годзе калгасамі і саўгасамі прададзена звыш 270 кватэр і дамоў. А 37 з іх набыты ў крэдыт.

### ДЗЯКУЙ ШВЕЙЦАРЦАМ. АЛЕ...!

Вы, часам, не ўспамінаеце застойныя гады, калі марожанае прадавалася амаль на кожнай вуліцы і порцыя яго каштавала ад 11 да 28 капеек? Думаю, што так. Але "няма таго, што раньш было". Порцыя імпартнага марожанага каштуе цяпер аж 10 рублёў.

Кафэ "Пінгвін", што ў Барысаве, належыць сумеснаму савецка-швейцарскаму прадпрыемству "Белкампексім". Прыгожае мастацкае афармленне, утульныя інтэр'еры, ветлівае абслугоўванне. З-за мяжы паступаюць сюды многія кампанементы і напаўняльнікі.

У продажы больш як 10 гатункаў марожанага, ёсць кулінарныя і кандытарскія вырабы.

А ўвогуле ў Барысаве марожанага вострa не хапае. Бо мясцовы цэх па яго вытворчасці, дзе дырэктарам працуе Сяргей Хацкевіч, пры месячным плане 170 тон у чэрвені выпусціў толькі 7, а ў ліпені – 50 тон салодкай прадукцыі. Ну хіба такога мізэру для цэлага горада хопіць? Можа лепш не спадзявацца на швейцарцаў, а працаваць самім?

С. Букаціч.

# КУР'ЕР ТЫДНЯ

*КОКТЫШ Лявонцій Аляксандравіч, начальнік дзяржінспекцыі па ахове працы, транспартнай і пажарнай бяспекі Міністэрства сельскай гаспадаркі РБ:*

– Вельмі цяжка прыгадаць такое спякотнае лета, як у гэтым годзе. Узгаранні пасяўных плошчаў і камбайнаў сталі амаль звычайнай справай. На 10 жніўня згарэла 20 камбайнаў, якія ўжо нельга адрамантаваць. Штодзень па рэспубліцы адбываецца да 300 узгаранняў камбайнаў. Асноўныя прычыны – замыканне электраправодкі, перагрэў асобных дэталей машыны ў выніку трэння. Гэтыя лічбы вельмі трывожныя, бо за ўвесь перыяд жніва ў апошнія гады згарала 6–8 камбайнаў. Часцей за ўсё ўзгаранні адбываюцца на машынах "Дон-1500" і "Ніва". Хвалюе і тое, што вельмі часта з камбайнаў агонь перакідваецца і на збажыну. Пасяўныя плошчы загараюцца нават ад незатушаных цыгарэт, якія ляцяць, бывае, з аўтамабіляў, што праязджаюць па дарозе. Так, у Пухавіцкім раёне згарэла каля 60 га пасеваў, у Крупскім – 15 га.

*САДОЎСКІ Пётр Вікенцьевіч, старшыня камісіі па замежных справах і знешнеэканамічных сувязях Прэзідыума Вярхоўнага Савета РБ:*

– Што я хачу сказаць наконт заявы беларускага ўрада па Чарнаморскаму флоту? Толькі адно: я – цалкам падзяляю яе змест.

Трэба сказаць, што тут няважны сам Чарнаморскі флот. Мы на яго ніякіх прэтэнзій не маем. Але тут узнята вельмі цікавае пытанне падзелу агульнай маёмасці. І тут небяспечны сам выпадак, калі задача, якая павінна вырашацца Саветам СНД, на самой справе вырашаецца кіраўнікамі Расіі і Украіны. А для таго, каб падобныя пытанні не ўзнікалі, трэба было сабрацца ўсім кіраўнікам СНД, каб разам знайсці выхад з гэтага становішча.

Хачу дадаць, што гэтым актам Расія і Украіна парушылі пагадненні, у якіх ідзе гаворка аб супрацоўніцтве ўсіх рэспублік былога Саюза.

*Алег ПАПОЎ, мастак "Народнай газеты":*

– Што мяне сёння турбуе? Гэта пытанне не такое і лёгкае, як можа здацца. Па-першае, адносіны нашых людзей да беларускай мовы. Мы ўсё яшчэ чамусьці саромеемся размаўляць на ёй, мове нашых продкаў. А пара, пара ўжо ўспомніць, хто мы такія, якія ў нас карані.

Другая праблема, якая мяне вельмі непакоіць, гэта азлобленасць нашых людзей. Усе навокал сталі нейкімі нервовымі, затузанымі і г.д. І ніхто, ніякія дзядзькі не дапамогуць нам выйсці з гэтага становішча, калі мы самі не захочам. І для таго, каб жыць стала лепш, весялей і г.д., не трэба рабіць нечага незвычайнага. Проста кожны павінен займацца сваёй справай. Будаўнікі – будаваць, пісьменнікі – пісаць, урачы – лячыць. А рознымі забастоўкамі мы жыццё ў лепшы бок змяніць не зможам.

Не хачу хваліцца, але скажу. Вось мы разам з іншымі мастакамі-карыкатурыстамі выпускаем гумарыстычную газету "Ха-ха". Выйшла ўжо сем нумароў. Дык вось па сваіх асабістых назіраннях і па водгуках чытачоў бачу, што газета робіць жыццё святлейшым (хай сабе толькі на некалькі хвілін).



# ІМЁНЫ НА ГРАНІЦЕ

Другое жніўня 1992 года. Гародня. Трыццаціградусная спякота быццам лягла на плечы, прыціснула да зямлі. У такі дзень, здаецца, адзіная палёгка — залезці па шыю ў Нёман і не вылазіць адтуль да першых зорак, калі на падсмажаны сонцам горад сыдзе доўгачаканая прахалода...

... Сотні людзей з кветкамі, бабулькі ў чорных хустках, бесклапотныя, нецярплівыя дзеткі, роўныя шыхты вайскоўцаў... І — хлопцы ў цяльняшках, у плямістай камуфляжнай форме, у дэсантных мундзірах з ордэнамі і медалямі. Усе яны прыйшлі сюды, на скрыжаванне вуліц Горкага і Курчатава, каб удзельнічаць у адкрыцці помніка гарадзенскім хлопцам, якія ваявалі ў Афганістане. Тым, хто не вярнуўся, тым, хто прыйшоў з гэтай вайны на сваіх нагах, тым, каму іх замяніла інвалідная каляска.

Здаецца, усе кропкі над "і" расстаўлены. Асуджаны тыя, хто паслаў нашых салдат абараняць прасавецкі ўрад у суседнюю краіну, на вышэйшым узроўні прызнана, што гэта вайна была памылкай, калі не сказаць горш. І толькі людзі засталіся — жывыя сведкі... А пра сведак забываць нельга.

Помнік ладзілі ўсім мірам. Грошы давалі прадрыемствы і ўстановы Гародні, шмат што зрабіў Саюз Моладзі Беларусі. Дзякуй ім!

Няма патрэбы шмат распавядаць аб адкрыцці помніка. Усё, як заўжды,— прамовы, абяцанні, але калі белае пакрывала ўпала з бронзавых фігур двух хлопцаў з аўтаматамі... Маці тых, чыім апошнім транспартам на гэтым свеце стаў "Чорны цюльпан", не стрымалі слёз. Кожнай здавалася, што менавіта яе сын стаіць на гранітным пастаменце на фоне чырвоных камянёў, падобных на распалёныя сонцам скалы Афганістана...

Са святой малітваю, праваслаўнай і каталіцкай, помнік (аўтары — скульптар А. Селяпіцкі і архітэктар У. Анісімаў) стаў на зямлі Гародні арэчаўлёнай памяццю. Але дзе памяць — там і неабходнасць рабіць нешта канкрэтнае для яе ўшанавання. Не голая публіцыстыка патрэбна хлопцам у цяльняшках, хаця б элементарнае разуменне іхніх праблем. Раздаваліся галасы: "Можа, лепей было б тыя грошы, што пайшлі на помнік, падзяліць паміж ветэранамі Афганістана?" На мой погляд, ім патрэбны не толькі і не столькі грошы. Ім патрэбна ў першую чаргу павага. Вось думкі тых, хто прысутнічаў на мітынгу, прысвечаным адкрыццю помніка воінам інтэрнацыяналістам.

**І.С. Галаўнёва, старшыня камітэта бацькоў воінаў, загінуўшых у Афганістане:** "Сёння на гродзенскай зямлі адраджаецца справядлівасць. Людзі прыйшлі пакланіцца нашым дзецям... Я — маці. Ува мне — галасы ўсіх маці зямлі беларускай... Людзі! Забудзьце аб палітыках! Памятайце пра дзяцей нашых — яны ж і сапраўды былі яшчэ дзецьмі! Як стагнала зямля, прымаючы цынкавыя труны! Досыць ліць бруд на галовы тых, хто вярнуўся з гэтай вайны. Яны ні ў чым не вінаватыя! Беражыце іх, беражыце мір, не дай Бог вам перажыць тое, што перажываем мы".

**В.І. Сарокін, старшыня Гродзенскага абласнога аддзялення Саюза ветэранаў Афганістана:** "Кучка палітыкаў для рашэння сваіх вузкіх палітычных задач развязала вайну замест крапатлівай палітычнай і дыпламатычнай работы. За гэтую авантуру прыйшлося плаціць самай дарагой цаною. Больш як тры тысячы жыхароў Гродзеншчыны прымалі ўдзел у гэтай неаб'яўленай вайне. 76 чалавек загінулі, 109 вярнуліся з Афганістана інвалідамі; 15 сем'яў засталося без кармільцаў. 116 воінаў узнагароджаны ордэнамі... След вайны на ўсё жыццё застаўся ў сэрцах кожнага з яе ўдзельнікаў. Але часам ні сэрца, ні розум не могуць знайсці адказу на пытанне: "За што?" "Чаму?" На жаль, сродкі масавай інфармацыі, пісьменнікі, кампазітары сарамліва абыходзяць гэтую тэму... Жывыя заўсёды абавязаны тым, хто па-геройску загінуў".

**М.І. Чаргінец, пісьменнік:** "Афганістан каштаваў беларускаму народу васьмісот жыццяў яе сыноў. Амаль шэсцьсот чалавек сталі інвалідамі і цяпер патрабуюць клопату грамадства, бо не ў стане забяспечыць сабе жыццё. На вялікі жаль, ёсць пакуль на Беларусі і тыя, хто жадае ачарніць іх подзвігі, іх бездакорную службу. Некаторыя не шкадуюць чарніла, каб даказаць, што яны не бачаць розніцы паміж немцамі на Беларусі і нашымі хлопцамі ў Афганістане. Гэтыя людзі — слепакі, яны проста выконваюць сацыяльны заказ тых, хто хоча ўшчэнт ачарніць усё святое, што ёсць у беларусаў... Дарагія бацькі тых, хто загінуў! Даруйце нам за тое, што мы засталіся жывымі..."

**Ю.А. Бацян, намеснік старшыні Беларускай асацыяцыі воінаў-афганцаў:** "Я быў, ёсць і буду салдатам. Таму буду гаварыць прама. Афганская вайна працягваецца, і будзе доўжыцца да тых часоў, пакуль паміраюць інваліды гэтай вайны, пакуль паміраюць бацькі тых, хто загінуў у Афгане...

Гучыць жалобная мелодыя. На пастаменце помніка, ля ног бронзавых хлопцаў вырастае гара кветак. У групе вайскоўцаў — міністр абароны Рэспублікі Беларусь генерал-палкоўнік П. Казлоўскі. Да яго — пытанне.

**— Павел Паўлавіч, якія меры збіраецца прадпрымаць Міністэрства абароны РБ як для ўшанавання памяці загінуўшых, так і для падтрымкі жывых удзельнікаў вайны ў Афганістане?**

— Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь толькі што стала сапраўдным міністэрствам, а на перспектыву такая работа абавязкова будзе праводзіцца. Ва ўсіх гарадах трэба паставіць хаця б памятныя знакі, каб памяць не згасла... А што датычыцца жывых — тут, безумоўна, трэба распрацаваць цэлую праграму дзеянняў, сацыяльнай падтрымкі ветэранаў Афганістана, а таксама сем'яў загінуўшых.

А цяпер хай скажуць тыя, хто да мікрафонаў не рвецца, але праблемы новай сацыяльнай праслойкі — воінаў-інтэрнацыяналістаў — ведае лепш, чым генералы і дэпутаты. Слова — радавым Афганістана.

У размове ўзялі ўдзел чатыры з тых самых "хлопцаў у цяльняшках", пра якіх і гаварылі толькі тады, калі іхнія батальёны "прачэсвалі" афганскія горы, давалі магчымасць афіцыйнай прэсе разгортваць прапагандысцкія кампаніі аб непераможнасці нашай арміі...

— Зараз пра нас забылі. Нават на тыя льготы, што нам прызначыў урад, ніхто не звяртае ўвагі. Усё толькі на паперы... Мы нават узнагароды свае носім толькі па святах, бо часам чуеш ад якой-небудзь бабулькі: "Сынок, дзе купіў?" Некаторыя нават не ведаюць, што быў такі Афган... А колькі разоў чулі: "Мы вас туды не пасылалі!"

— Кажуць, мы былі акупантамі. Хай нават і так, але хіба ў тыя часы мы маглі думаць пра гэта? Мы выконвалі інтэрнацыянальны абавязак, бачылі, што частка народа Афганістана нас падтрымлівае, прычым значная частка. Няўжо мы маглі адмовіцца?

— Што нам застаецца, акрамя памяці? Хай пішуць пра нашу жорсткасць... Пішуць тыя, каго там і блізка не было...

— Ты пытаешся, хто нам больш за ўсіх дапамагае? Толькі мы самі! На тыя 500 рублёў пенсіі, што я атрымліваў да апошняга часу, хіба пражывеш, сям'ю пракорміш? Прыходзіцца круціцца... Атрымліваецца так: ільготы далі, і як хочаш, так іх і выбівай.

— Прыходзіш у краму, а там: "Што вы сюды ходзіце? У вас свая крама!" Скоса на нас глядзяць... І не ведаюць, што ў "нашых" магазінах, акрамя туалетнай паперы, нічога не купіш.

— Гэтае зло нарадзіла сістэма, тая галеча, у якой народ апынуўся. Дэфіцыты, дэфіцыты... Гэта ж параўнаць, якія льготы маюць ветэраны В'етнама і што маем мы! Тое ж самае, што параўнаць тоўсты том з пяцікапеечнай брашурай...

— Ты ж не будзеш спрачацца, што Афган нам здароўя не прыбавіў? Дык прыходзіш у паліклініку, а там доктар безапеляцыйна сцвярджае: "Ты здаровы". Бачыць, што малады, значыць здаровы... А што ў шпіталь са сваімі лекамі трэба класціся — тут ужо і гаварыць няма чаго...

— Там, у Афганістане, нават тыя, хто паранены не быў, здароўе страціў. Малярыя, тыф — амаль 90 працэнтаў! З майго батальёна, з 400 чалавек, толькі 30 засталіся на нагах...

— Што нам дае клуб афганцаў? Толькі што сустрэцца, пагаварыць... Праўда, разам і дапамагаем тым, каму патрэбная дапамога. Фізічная і духоўная. Ад уладаў жа яе не дачакаешся.

— Пішуць, маўляў, мы там усе наркаманамі сталі... Гэта ж супраць нас вялася вайна — біялагічная, наркатычная. Там жа і вада не такая, як у нас, і паветра, і харч чужы! У Файзабадзе, дзе я служыў, памерылі тэмпературу ў палатцы... 49 градусаў! Былі хлопцы, што на разводзе ў 8 гадзін раніцы проста страчвалі прытомнасць. Ты кажаш, як у Ташкенце? Не, там яшчэ халаднавата! У нас, калі 39 па Цэльсію было, гаварылі: во, як у Ташкенце...

— У Файзабадзе мы як мінімум два месяцы ў год сядзелі на кавалачках сухара ды на ячных крупах... Чарвівае мяса елі, суткі ў воцаце адмочвалі, і елі... У макаронах шкло бітае знаходзілі...

— У літаратуры пра Афган 5 працэнтаў праўды — не больш. Чаргінец, праўда, добра піша, ён сам там ваяваў.

— Гераізм не ў тым, што выйдзеш з аўтаматам ды пастраляеш... Як мы жылі — вось пра што трэба гаварыць, бо ўсё з тых хвілін складалася. Выжыць — вось што там было асноўным. У медсанбаце, разлічаным на некалькі дзесяткаў параненых, сотні ляжалі. Шпрыцаў не хапала, нават вітамінаў... Нават аднаразовыя шпрыцы кіпяцілі — і па-новай... Ды й тыя аднаразовыя шпрыцы медсёстры, што з намі суткамі сядзелі, за свае грошы з Саюза прывозілі. Пра аддзяленне рэанімацыі гаварылі: "Святое месца пустым не бывае". Кожны дзень хлопцаў прывозілі. І далёка не ўсе адтуль выходзілі на сваіх нагах... Многія наогул не выходзілі... Кожны дзень адлятаў "Чорны цюльпан". Пад час баявых аперацый — два—тры.

— Помнік не можа падабацца ці не падабацца. Праўда, месца для яго трэба было іншае выбраць... А што раілі грошы за гэты помнік раздаць — дык гэта лухта. Грошы сёння ёсць, заўтра — няма. Помнік жа стагоддзямі стаяць будзе, калі нейкія вандалы яго не пабураць. Ён нагадваць павінен, ад памылак перасцерагаць.

— Мы не станем, як амерыканскія ветэраны В'етнама, кідаць свае ўзнагароды. Яны крывёю зробленыя! Нашай крывёй.

Кроў — не вада. І памяць — не вецер. Юры Міхневіч, Леанід Гумянюк, Казімір Чарніцкі і Алег Міклушчык, як і тысячы салдат і афіцэраў Афганістана, жывы дакор палітыкам, усім нам, жывыя сведкі...

...Увечары на Гародню ўпаў лівень. Кроплі цяклі па бронзавых тварах. Як слёзы.

**Алесь Палынскі.**

*P.S. Аўтар прыносіць шчырую падзяку супрацоўнікам Беларускай чыгункі рэвізорам Валерыю Міхайлавічу Маханько і Святлане Генрыхаўне Зубрыцкай, а таксама праваднікам Наталлі Міхайлаўне Бенеш і Святлане Антонаўне Юркевіч за дапамогу ў час падрыхтоўкі гэтага матэрыялу.*

*А.П.*



Маці.



Выступае міністр абароны РБ П.П. Казлоўскі.



Імёны і кветкі.



# ЛУСТА ХЛЕБА –

Спякота. Горад напаўпусты — гараджане ў адпачынках. Хто паехаў на Поўдзень, хто на Нарач, хто на лецішча. А на палях пачынаецца жніво. І вяскоўцам не да адпачынкаў, не да вандровак на цёплае мора — самая праца. Паводле слоў прадстаўніка Міністэрства сельскай гаспадаркі Беларусі Алеся Каробача, з-за моцнай спёкі ўраджай збожжа ў гэтым годзе будзе на 1,5—2 мільёны тон меней, чым у мінулым. А гэта значыць: неабходна вырашчанае сабраць з найменшымі стратамі. Акрамя таго, неабходна назапасіць сенажу, каб было чым карміць жывёлу ўзімку, ды й вырашыць шмат іншых праблемаў, якіх дастаткова на вёсцы. Як спраўляюцца з імі? Ці будзем мы ў гэтым годзе не толькі з папяровай незалежнасцю, але і з хлебам, мясам, бульбай, малаком?



Камбайнёр Шатроўка Фёдар Фёдаравіч.

Племзавод Леніна, што знаходзіцца на Магілёўшчыне, амаль ля самай мяжы з Расіяю, гаспадарка ва ўсіх адносінах выбітная. У мінулым лепшы племзавод рэспублікі сёння пакутуе ад сваёй вузкай спецыялізацыі, у якую быў загнаны сацыялістычнай сістэмай гаспадарання, і дужкі якой цяпер сціскаюць яму бакі.

“Але калі не выжывем мы, адна з лепшых гаспадарак рэспублікі, то што казаць пра іншых?!” — разважае старшыня саўгаса Мікалай Мікалаевіч Ларковіч. І мае рацыю.

Але давайце па парадку.

Усяго ў гаспадарцы ўтрымліваецца 9 тысяч свіней. Гэта асноўны статак, колькасць якога не змяняецца і падтрымліваецца адналькавай на працягу шэрагу гадоў. Дзякуючы гэтаму саўгас мае магчымасць здаваць на мясакамбінат 14 тысяч свіней прыплоду штогод. А гэта прыблізна 1050 тысяч тон мяса. Парсюк адпраўляецца на мясакамбінат тады, калі ягоная вага дасягне 100 кілаграмаў. Толькі да таго часу, пакуль гэтая яго вага дасягне патрэбнай мяжы, парсюка неабходна карміць і не абы- як. Толькі ні для каго ж не сакрэт, што сённяшні дзень, акрамя галоснасці і незалежнасці, прынёс разрыў гаспадарчых сувязяў і эканамічны заняпад. Што адбілася і на племзаводзе. А дакладней на свіннях, якія не атрымліваюць камбікармоў па дзяржаўных пастаўках.

— А што будзеце рабіць, калі раптам пастаўкі камбікармоў спыняцца? — пытаюся ў дырэктара свінакомплексу саўгаса Леніна Мікалая Іванавіча Осіпава.

— Дык гэта ўжо ёсць! Дзяржаўныя пастаўкі прыпыніліся цалкам. Усё, што мы сёння знаходзім, — толькі дзякуючы ўласным сувязям і намаганням. Вось нядаўна здарылася такая недарэчнасць. Мы здалі мясакамбінату свіней на паўтара мільёна рублёў, а ў таго няма грошай, каб адразу нам усё аплаціць, — трэба чакаць. Толькі завод камбікармоў чакаць не жадаў, патрабаваў перадаплату. Вось і засталіся свінні без харчавання. Каб хоць неяк “выкруціцца”, давозілася здаваць свіней вагою ўсяго толькі па 80 кг. Зараз вось, здаецца, крыху палягчэла.

— А ці выгадная гэта сёння справа — вырошчваць свіней?

— Зусім нявыгадная. Падлічыце самі: мясакамбінат прымае ў нас свініну па 72 рублі за кілаграм. 1 кг камбікорму каштуе 10 рублёў. Аднаму парсюку для таго, каб ён дасягнуў вагі ў 100 кг, неабходна 5 кг камбікорму. Ужо выпадае 50 рублёў. Плюс зарплата рабочым, плюс плата за электрычнасць і розныя амартызацыйныя выплаты на абсталяванне і памяшканне. Што застаецца саўгасу? Амаль нічога.

— Якое ж выйсце з гэтага становішча?

— Мне здаецца выйсце толькі адно — кааператыванне з суседняй гаспадаркай. Яны спецыялізуюцца на вырошчванні збожжавых культур. Такое кааператыванне дало б нам магчымасць рыхтаваць уласныя камбікармы і не ад каго не залежаць.

Калі справы і надалей будуць развівацца такім жа чынам як і сёння, то не ведаю, ці пажадае саўгас займацца такой нявыгаднай справай, як вырошчванне свіней. Сяляне яшчэ для сябе, безумоўна, знойдуць якое-небудзь выйсце, без мяса не застануцца. Ужо і сёння саўгас прадае сваім супрацоўнікам свініну па льготнаму кошту (раней 25, а цяпер 50 рублёў за кілаграм) альбо аддае за 500 рублёў малога парсючка для самастойнага вырошчвання. А вось што будуць рабіць жыхары гарадоў?

На полі спякота, але праца спыняецца толькі на паўгадзіны — абед. Развозіць і раздае ежу маладзенькая дзяўчынка, дачка





Абед пад час сенакосу.





# ГЭТА ТАК ШМАТ

механізатара саўгаса. Ала Суздалева вучыцца ў Магілёўскім педвучылішчы. Але цяпер на вёсцы недахоп людзей, кожны на ўліку, і таму яна вырашыла крыху папрацаваць, дапамагчы не столькі саўгасу, колькі людзям, побач з якімі жыве ў вёсцы. І ёй занятак, і гаспадарцы карысць, і механізатарам, занятым на нарыхтоўцы кармоў, прыемна хоць на некалькі хвілін расслабіцца, забыцца на цяжкую працу, спякоту і пажартаваць з увішнай дзяўчынаю.

Што ж датычыць нарыхтоўкі кармоў, то і старшыня саўгаса, і галоўны інжынер упэўнены: сенажу на зіму хопіць. І гэта нягледзячы на тое, што атавы не будзе. Ды і тая трава, якую косяць цяпер, дзякуй Богу, што паспела вырасці, — высахла цалкам яшчэ да таго як яе скасілі. "Ад гэтага і малака ў кароў мала", — скардзіцца малаказборшчык Васіль Іванавіч Тураў.

Праўда, нягледзячы на тое, што прадстаўнік Міністэрства сельскай гаспадаркі выказвае заклапочанасць сённяшнім жнівом і ўраджаем, камбайнер Фёдар Фёдаравіч Шатроўка спакойны: у іхнім саўгасе ў гэтым сэнсе ўсё будзе ў парадку. Падтрымлівае яго ў гэтым і Мікалай Мікалаевіч Ларковіч, старшыня саўгаса.

— У гэтым годзе ў нас ураджай збожжавых будзе нават большы, чым у мінулым. Прыблізна па 30 цэнтнераў з гектара плануем убраць, — сцвярджае ён.

— А ці не збіраецеся, — пытаюся, — адмовіцца ад той вузкай спецыялізацыі, у якой цяпер знаходзіцца саўгас?

— Безумоўна, гэтая спецыялізацыя для нас як кол у горле сядзіць. Вельмі ўжо дарага абыходзіцца нам вырошчванне "адбіўных" да вашага стала. Цяжкае становішча і з вырошчваннем ды продажам племянных свіней. Калі ў мінулым годзе мы прадалі іх 3500 штук розным гаспадаркам, то за першую палову гэтага — толькі 500 штук. Не бяруць — дорага. Але ж гэта адаб'ецца на якасці тых статкаў, дзе няма добрых племянных свіней. Такая ж сітуацыя і з буйной рагатай жывёлай.

Толькі, нягледзячы на ўсе гэтыя складанасці, адмаўляцца ад спецыялізацыі не думаем. Спыніць працу — гэта значыць страціць спецыялістаў, вопыт, працоўныя месцы, у рэшце рэшт. Будзем скарачаць статак да межаў рэнтабельнасці. Больш увагі звернем на вырошчванне бычкоў на ўласных травах.

Калі на нас нават канчаткова махнуць рукою і кінуць на волю лёсу, то будзем жыць па прынцыпу, каб забяспечыць у першую чаргу сябе і падтрымаць жыццёвую працаздольнасць гаспадаркі.

І сапраўды, самі ж сяляне сябе забяспечаць, і не толькі мясам. І, нягледзячы на тое, што зямлі ў гэтым годзе саўгаснікі маглі пад прыватныя пасевы браць колькі пажадаюць, ніхто не ўзяў больш як 3 га. У агульнай колькасці, каля 150 гектараў ворнай зямлі засеялі сяляне зернем. Гэта значыць, што ўвесь ураджай будзе цалкам належаць ім. Гэта будзе іх хлеб.

Адзінае: як яго ўбіраць? І зноў па дзедаўскаму метаду — сярпом?

— Мы сабраліся раз на планёрцы і вырашылі, што ўбраць ураджай збожжавых з палёў сярпом павінен дапамагчы саўгас. І мы выдзяляем 2 камбайны, якія будуць займацца гэтай справай.

— Гэта значыць: бяры, бабулька, пляшку гарэлкі і ідзі да камбайнера, каб той прыехаў на яе поле?

— Не. Аплата такая: 10 рублёў за сотку. Участкі ўбіраюцца па чарзе і побач з камбайнерам будзе знаходзіцца бухгалтар, які і павінен сачыць за аплатай. Прычым камбайнер атрымлівае 50 працэнтаў ад агульнага кошту.

Шмат праблем у старшыні. Так, напрыклад, каля 70 чалавекам патрэбна новае жыллё. Але цяпер будаўніцтва саўгас амаль не вядзе: і будматэрыялы дарагія, і праца будаўнікоў.

— Але заўважце, — кажа Мікалай Мікалаевіч, — мы прапанавалі ўсім, каму патрэбна новае жыллё, будавацца самім — калгас дае матэрыялы. Жадаючых няма.

Эх, цяжкасці-складанасці! Колькі вас у жыцці сялянскім. Але дасць Бог здужаеце, выжывеце ў гэтым калаўроце эканамічнага абвалу. Колькі разоў ужо мужыцкая працавітасць і цярплівасць ратавала краіну. І вось новае выпрабаванне. Не апусціліся б толькі рукі, не знікла б толькі жаданне вырошчваць хлеб. На вас, на гэтых людзях, трымаецца Беларусь, вы яе моц, яе надзея.

**Зміцер ЛУКАШУК,**
**аглядальнік"ЧЗ"**
**па пытаннях**
**эканомікі.**

**Фота С.БРУШКО.**







Ала Суздалева – любіміца камбайнераў – з яе рук і абед смачнейшы.



Малаказборшчык Васіль Іванавіч Тураў.



Даяркі фермы Касцюшкава саўгаса Леніна: Тамара Куляшова, Юлія Сахарава, Паліна Уварава і Зоя Даброцькіна.

*Нататкі з "глыбінкі"*

*Мяняюцца часіны. У скверыку пракладзены дарожкі, пастаўлены лавачкі, пасеяна траўка. Цяпер вельмі прыемна адпачыць тут у летнюю спякоту пад кронамі старых дрэў. Але радзей тут сталі праходзіць масавыя народныя святы, якія з'ядноўвалі людзей. Асірацела галоўная плошча горада. А на лаўках, у скверы часта можна ўбачыць п'яных. Сумна тут стала.*

# СТАРЫЯ ЧАШНІКІ

Старэйшая ў Чашніках плошча — як бы працяг вуліцы Савецкай, на яе ж выходзяць іншыя вуліцы. Там, дзе цяпер сквер, калісьці стаяла царква. Царква згарэла, а плошча стала галоўным месцам гандлю. Прадавалася, напрыклад, шмат розных вырабаў з гліны: гаршкоў, місак, спарышоў, збаноў, нават розныя дзіцячыя цацкі, якімі славіліся чашніцкія ганчары. Некалькі разоў у год тут праходзілі кірмашы. Хоць гісторыя не захавала назву плошчы (мабыць, яе і не было), але яе па праву можна было б назваць Гандлёвай.

Аб развіцці гандлю ў Чашніках паведамляе гісторык І.Д. Гарбачэўскі ў апісанні Лепельскага павета (1895 г.):

"... м. Чашники в торговом отношении занимает первое место в уезде, по числу же народонаселения немного менее Лепеля... представляя собой центр Лепельского еврейства, местечко потонуло в грязи и зловонии, так что некоторые жители от этой непролазной грязи даже получили и родовые прозвания.

Чашникские купцы, исключительно евреи, торгуют весьма бойко, красными товарами, хлебом и различными хозяйственными принадлежностями.

Закупленный у крестьян хлеб грузится на лайбы и отправляется в Ригу. В местечке бывает несколько ярмарок, в Никольской преимущественно торгуют лошадьми".

У час правядзення кірмашоў сюды ішлі пешшу, прыязджалі на конях, прыплывалі на лодках па рацэ Уле не толькі сяляне навакольных вёсак, але і з Лепеля, Бешанковіч, Сянна, Талачына. Старажылы ўспамінаюць, што ў пачатку стагоддзя ў восеньскі час дажджоў тут была непралазная гразь. Чашніцкія купцы пабудавалі побач цагельныя крамы, якія і сёння стаяць. Тады ж пасярэдзіне доўгіх шэрагаў магазінаў існаваў арачны праезд на кірмашовую плошчу. Пазней вуліцы, якія прылягалі да плошчы, а таксама праезд пад аркай забрукавалі круглымі гладзенькімі каменьчыкамі. Стала больш чыста і ўтульна.

З другога боку плошчы ў 1907 годзе купец першай гільдыі Гурэвіч пабудаваў прыгожы дом, аздоблены керамічнымі, а таксама рознымі чыгуннымі мастацкімі вітымі ўпрыгожаннямі. Пад домам і вакол яго для асушэння тэрыторыі і склепа была праведзена меліярацыя.

Пасля рэвалюцыі Гурэвіч разам з сям'ёй выехаў з Чашнік, а ў доме размясціўся рэўваенсавет. Цяпер тут — раённы гістарычны музей. Сюды, у сквер, у даваенны час збіралася многа людзей, каб падзівіцца і паслухаць радыёперадачы з першага вялікага гучнагаварыцеля, устаноўленага пад дахам былога дома Гурэвіча. А пасля вайны, калі зноў загучалі перадачы радыё, паслухаць іх прыходзіў сюды беларускі пісьменнік Янка Журба (Іван Якаўлевіч Івашын). У чорным даўгаполым паліто, сярэдняга росту, ён амаль кожны дзень гадзінамі стаяў, абапёршыся на агароджу скверыка і адвярнуўшы рукой вуха ў бок гучнагаварыцеля, уважліва слухаў.

За домам Гурэвіча стаяў другі вялікі драўляны дом, ён спарахнеў і быў разбураны ўжо ў наш час. У ім размяшчаўся заезны двор. Побач стаяла прыгожае драўлянае збудаванне, аздобленае вітым металічным ганкам і чыгуннымі мастацкімі рашоткамі над уваходам. Дом гэты таксама разбураны, але дзякуючы выпадку ён застаўся ў кінафільме "Людзі на балоце". Рэжысёр фільма Віктар Тураў выкарыстаў стары асабняк, фасад якога выходзіў у скверык, для здымкаў аднаго з эпізодаў.

Многа радасных і трагічных падзей звязана ў чашнічан са скверыкам на плошчы. У час вайны тут адбываліся асабліва жорсткія пакаранні савецкіх людзей. Немцы вешалі іх на дрэвах у скверы. Тут жа хавалі і загінуўшых немцаў. На кожнай магілцы ставілі бярозавы крыж. Трыццаць, а можа, і больш крыжоў стаяла.

У пасляваенны час сквер аднавілі. Тут вечарамі гуляла моладзь, а на невялічкай пляцовачцы пад гармонік ці гітару тут спявалі і скакалі.

Яшчэ перад вайною тут была пабудавана калонка з цудоўнай крынічнай вадой. Існавалі два—тры месцы ў невялікіх тады Чашніках, дзе жыхары бралі піць ваду. Для жывёлы, мыцця бялізны выкарыстоўвалі ваду з ракі Улы. А піць ваду бралі з крынічак ля берага ракі. Будаўніцтва калонкі ў цэнтры мястэчка са смачнай вадой было падзеяй у Чашніках. Прыносіць ваду з калонкі даручалі дзецям. З невялікімі вядзерцамі ці бітончыкамі яны некалькі разоў у дзень хадзілі да калонкі за смачнай сцюдзёнай вадой.

Калонка была адзіным месцам, адкуль святары на працягу доўгіх год бралі ваду для таго, каб яе пасвянціць. У гэтым сэнсе калонка набыла нейкае культавае значэнне.

На жаль, цяпер калонка сапсавалася, не працуе, чамусьці ніхто яе не рамантуе. Старажылы вельмі сумуюць без яе, бо разам як бы знік пульсуючы струменьчык — часцінка архітэктуры плошчы, парвалася тая нітка, што звязвала іх з далёкай маладосцю.

Памятная плошча і тым, што тут была пажарная, якая ў часы драўляных Чашнік адыгрывала немалую ролю. Па няпісаных правілах каля пажарнай збіраліся людзі, каб пачуць мясцовыя навіны, абмеркаваць падзеі, паспрачацца. Асаблівай павагай карысталася пажарная з-за існаваўшага тут пры ёй духавога аркестра. Пастаянна ў вольны час тут ішлі рэпетыцыі, сюды за паслугамі звярталіся людзі і ў час смутку — пахавання родных, і ў часіну адпачынку, бо рэпертуар аркестра не замыкаўся на пахавальнай музыцы. І гучалі тут некалі маршы, вальсы...

Ніна КІНДЗЯЕВА.

*Правінцыяльная хроніка*



## РАКІРОЎКА ПА-ГЛЫБОЦКУ

На Глыбоччыне ажыла Партыя камуністаў Беларусі. Сабралася на свой першы сход. Форум атрымаўся нешматлюдным, а ўсё ж... Абраны склад райкома партыі: былы першы сакратар, былы другі ды, вядома, камсамольскі важак, таксама былы. Вось табе, бабулька, і Юр'еў дзень. Ну, а ўзначаліў партыю колішні старшыня партыйнай камісіі былога райкома КПБ. У камуністаў – ракіроўка. Так і хочацца прыгадаць Крылова: "А вы, друзья, как ни садитесь..."

## ПАКУЛЬ ЖЫВУЦЬ ФУНДАТАРЫ...

У вёсцы Язіна Шумілінскага раёна ідзе рэканструкцыя помніка. Помнік звычайны: воінам-партызанам, якія загінулі тут у Вялікую Айчынную вайну. Ды і факт гэты сам па сабе можа падацца звычайным, калі забыць, што на вуліцы рынак, што "руплівыя" гаспадары трасуцца над кожнай капейкаю – не да помнікаў. А тут... тут фундатарам падахвоціўся быць фонд міру, які і пералічыў на рэканструкцыю дзесяць тысяч рублёў. Жыві, памяць, пакуль жывуць фундатары.

## "ЭХ, ЯБЛЫЧАК, КУДЫ КОЦІШСЯ?.."

Ці багата хто ведае, што ў вёсцы Фатынь, на Лепельшчыне, расце сад, якому неўзабаве будзе сто гадоў? Некалі тут гаспадарыла сям'я знакамітага садоўніка Язэпа Кандратавіча Мароза. І спелі яблыкі: салодкая антонаўка, ананас, грушаўскія – ды ці мала. Кажуць, менавіта Язэпам Марозам выведзена славутая белакачанная капуста. Але – калектывізацыя, Сібір, а на закінутай сядзібе іншыя "гаспадары жыцця" і – запусценне... Дарэчы, на Лепельшчыне цяпер сады займаюць 436 гектараў і часта ўлетку яблыкаў куры не клююць. А зімою? Не страшна. Закупім у Польшчы. Умець трэба!

Падрыхтаваў
Уладзімір МІХНО.




Музычны выпуск "Нотны аркуш" вядзе журналіст Вітаўт Мартыненка, тэл. 39-87-94.

№12 (202)

*Па старонках газет*

# Ці сумленьне прамаўляе да чалавека?

**Сёння пад вышэйпазначанай традыцыйнай рубрыкай "Нотнага аркуша" мы перадрукоўваем артыкул старшыні канадыйскага таварыства "Беларусь" Алеся Палескага з таронцкага беларускага часопіса "Зважай", дзе востра закранаюцца маральныя праблемы, звязаныя з музыкай, з асобнымі беларускімі музыкантамі і іхнія дачыненні з эміграцыяй.**

●

Чатыры гады таму назад, пасля доўгага перарыву, у Канадзе ў Таронто наладзілі 18-ю Сустрэчу Беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Гэная сустрэча распачала новы воблік наступных мерапрыемстваў такога роду, бо ўпяршыню здарэньнем было выступленне ганаровага госця з Беластоку сп. Сакрата Яновіча й вельмі ветліва публіка ўспрыняла выступленьне ансамблю *"Дубіны" з Гайнаўкі.* Прысутным на сустрэчы быў таксама рэдактар адзінай у той час беларускай радыёвай перадачы польскага радыё з Беластоку сп. Уладыслаў Прахові́ч. Мяркую, што гэты ўдзел афіцыйнай дэлегацыі з Беластоцкага Краю меў асабліва важнае значэнне; распачаўся сапраўдны культурны абмен паміж нашай паўночна-амерыканскай эміграцыяй і Бацькаўшчынай. Дзевяць месяцаў пазней нью-йоркскі танцавальны гурток "Васілёк" паспяхова наведаў Беласточчыну.

Справай запрашэньня гасцей, пры поўнай падтрымцы і дапамозе галоўнага арганізатара 18-й Сустрэчы, Згуртавання Беларусаў Канады, займалася новапаўсталае Канадыйскае Таварыства "Беларусь". На працягу свайго існавання таварыства гэтае прагрэсіўна, на маю думку, супрацоўнічала з культурна-адраджэнцкімі арганізацыямі з Бацькаўшчыны. Яно было ініцыятарам і фундатарам беларусазнаўчага конкурсу "Беларусаведа- 89", што праводзілі БГКТ і БАС, таксама фундавала выданне кружэлкі менскага рок-гурта "Уліс" і інш. Аднак найбольшым праектам дзейнасці таварыства былі запросіны на 18-ю Сустрэчу Беларусаў Паўночнае Амэрыкі гасцей з Беласточчыны.

Думка, каб запрасіць за акіян ансамбаль з Бацькаўшчыны нарадзілася пасля 17-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі ў 1986 г. З прычыны шматлікіх палітычных складанасцяў таго часу амаль немагчыма было запрасіць нейкі гурток з Бэсэсэрыі. Такім чынам выбар паў на вакальна-інструментальны гурт "Дубіны". Ансамбль гэты не прадстаўляў дастаткова высокага ўзроўню, але быў практычна адзіным у Беластоцкім Краі, што дзейнічаў на беларускай ніве.

Два гады да 18-й сустрэчы, лістоўна спалучыўся я са старшынём гэтага гуртка сп. Пятром Скепкам, прапанаваў запрасіць ягоную групу ў Канаду. Сп. Скепка з энтузіязмам прыняў маю прапанову і запэўніваў мяне, што да прыезду гурток павысіць сваё музычнае майстэрства найменш да саліднага аматарскага ўзроўню.

Мне, як старшыні Таварыства "Беларусь", прыйшлося несьці асноўны цяжар здзейсненьня гэтага праекту. Цяжкімі былі пошукі прыхільнікаў гэтага мерапрыемства і зборкі фінансавых сродкаў. Дзясяткі разоў на працягу дасустрэчнага часу трэба было наведваць адлеглыя гарады ў Канадзе і ЗША — Кліўленд у штаце Агаё, Гайленд Парк у Нью-Джэрсі, Нью-Йорк, Дэтройт у Мічыгане, Чыкага ў Ілінойс, Садбуры і Лондан у Антарыё, Мантрэал у Квібэку і іншыя.

Запрашаючы "Дубіны" за акіян, мы разумелі, што, апрача выступлення на 18-й Сустрэчы, госьці захочуць пабыць у нас даўжэй, каб падмацаваць свае эканамічныя становішчы. У сувязі з гэтым, апроч падарожжа і медыцынскай страхоўкі, на працягу трох месяцаў гасцям забяспечылі ўтрыманне й памяшканні.

Паўтара месяца перад сустрэчай журналіст Прахові́ч і ансамбаль "Дубіны" прыехалі да нас бяз музычных інструментаў. Паўстала пытанне: на чым ансамбаль будзе іграць? Найтанней было б на патрэбны час наняць інструменты, але ж гурт патрабуе некалькі тыдняў часу, каб практыкавацца на новых прыладах. Спасцярогшы, што паутыднёвая арэнда будзе каштаваць амаль адну трэцюю цаны новага абсталяваньня, я пастанавіў зрабіць усё магчымае, каб здабыць патрэбныя грошы на куплю новых інструментаў. Утрыманьне гасцей каштавала 28 тысячаў даляраў, ня ўлічваючы маіх прыватных выдаткаў на звязаныя з гэтым падарожжы й вельмі каштоўныя тэлефонныя размовы. На новыя інструменты патрэбных было 13 тысяч даляраў.

Гэтыя грошы ўдалося здабыць амаль у апошнюю хвіліну дзякуючы шчодрай падтрымцы беларускіх грамадскіх і царкоўных арганізацыяў і асабліва многіх індывідуальных ахвярадаўцаў. Да гэтага часу ніхто з нас, гаспадароў, і ня думаў, што госці могуць прэтэндаваць на інструменты, як іхнюю ўласнасць.

Пасля трох месяцаў госці вярнуліся дадому, апроч кіраўніка ансамблю сп-ра Скепкі, акі астаўся аж да Калядных святаў На працягу гэтага часу трэба было вырашыць, пад чыю кантролю й на якіх умовах пераказаць закупленыя музычныя інструменты. Амаль пяць месяцаў часу заняла апрацоўка дакументаў пераказу, вэрсія якога ўзнікла пасля падрабязнай кансультацыі з кампетэнтнымі ў гэтай справе асобамі як архіепіскап Мікалай, сп. М.Ганько, сп. С.Прахарук, сп. Я.Запруднік, сп. С.Карніловіч, сп. В.Сельвесюк і іншыя.

Таму, што Царква ёсць інтарнацыянальна ганаровай дабрачыннай установай, афіцыйна ўсе аперацыі, звязаныя з купляй інструментаў, праходзілі праз царкоўную касу. Дзеля гэтага дакументы пераказу былі распісаныя ў двух ступенях. У першым дакуменце, падпісаным Першым Ярархам БАПЦ Мітрапалітам Мікалаем, царкоўным скарбнікам Марыяй Ганько і мною, гаворыцца:

"Дзеля далейшага развіцьця й папулярызацыі беларускай песьні й музычнай культуры, Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква, за пасярэдніцтвам Канадыйскага Таварыства "Беларусь" (...) пераказваюць суайчыннікам у Польскай Народнай Рэспубліцы камплект музычных інструментаў як Дар Беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Камплект складаюць(...)

Дзеля апекі й належнага выкарыстоўвання ахвяраваных інструментаў Канадыйскае Таварыства "Беларусь" упаважняе мужоў даверу ў складзе: сп. Ю.Туронак, (...) сп. Л.Тарасэвіч, (...), сп. Я.Максімюк, (...), сп. В.Сельвесюк, (...), сп. А.Палескі, (...), якія будуць поўнымі ўласьнікамі ўсіх вышэйпералічаных інструментаў.

Мужы даверу абавязаны наглядаць за адпаведным выкарыстоўваньнем інструментаў згодна з выказанай вышэй ідэяй развіцьця й папулярызацыі беларускай песні й музычнай культуры ў Беластоцкім Краі. Мужы даверу распараджаюцца інструментамі, аддаючы іх у карыстаньне выбраным асобам і калектывам, якія будуць адказнымі і абавязанымі дбаць за добрае тэхнічнае ўтрыманне паверaных ім інструментаў. У выпадку шкоды ці ўтраты інструментаў, карыстаючыяся імі асобы ці калектывы абавязаныя пакрыць звязаныя з гэтым кошты. У выпадку выкарыстоўваньня інструментаў нязгодна з ідэяй развіцьця беларускай музычнай культуры, на загад мужоў даверу карыстаючыяся асобы ці ансамблі забавязаны звярнуць поўнасьцю склад інструментаў. (...)"

Выказваючы пашану за дзейнасць ансамблю "Дубіны" і падзяку за ўдзел у 18-й сустрэчы, вырашана паручыць камплект інструментаў на карыстанне на неабмежаваны час ансамблю "Дубіны", што вынікае з другога дакументу, у якім сказана:

"Канадыйскае Таварыства "Беларусь" і пакліканыя ім мужы даверу ў складзе: (...), пераказваюць камплект музычных інструментаў — дар Беларусаў Паўночнае Амэрыкі — у карыстаньне ансамблю "Дубіны" з Гайнаўкі для далейшай дзейнасці калектыву ў галіне развіцьця й папулярызацыі беларускай песні й музычнай культуры.

Мужы даверу выказваюць поўны давер кіраўніку калектыву Пятру Скепка і ў ягоныя рукі аддаюць поўную ўладу й адказнасць за інструменты ў часе іх выкарыстоўваньня ансамблем "Дубіны".

Мужы даверу прынімаюць забавязанасць калектыву "Дубіны" поўнасьцю дзейнічаць згодна з выказанай вышэй ідэяй развіцьця беларускай музычнай культуры. Усе сябры ансамблю "Дубіны" забавязаныя дбаць пра добрае тэхнічнае ўтрыманне пераказаных інструментаў у складзе: (...).

Ансамбль "Дубіны" забавязаны пакрываць усе расходы, звязаныя з утрыманнем інструментаў улучна з узнікнуўшымі коштамі ў выпадку рамонту ці ўтраты інструментаў у часе іх выкарыстоўваньня ансамблем "Дубіны".

(..)

Спачатку спадар Скепка ўспрыняў гэта з вялікімі жахамі і абурэньнем, але, ня маючы іншага выхаду, пагадзіўся з гэтымі ўмовамі.

Таму, што ў даным моманце толькі Валік Сельвясюк і я прысутнічалі на гэтым кантынэнце, другі дакумент ня быў падпісаны сп-ом Ю.Туронкам, сп-м Л.Тарасэвічам і сп-м Я.Максімюком. Кіраўнік ансамблю Скепка забавязаўся неадкладна даставіць дакумент да падпісаньня вышэй названым асобам і пакінуць кожнаму мужу даверу копіі абодвух дакументаў. На працягу двух гадоў я спанукаў Скепку, каб згодна з умовай падпарадкаваўся камітэту выбраных мужоў даверу.

На жаль, Скепка зігнараваў прынятыя варункі. На 19-й сустрэчы (у Кліўлендзе), у прысутнасці В.Сельвесюка, старшыні ЗБК М.Ганько, царкоўнага скарбніка Марыі Ганько, А.Латышонка й мяне паспрабавалі мы скланіць Скепку падпарадкавацца прынятым законам і закончыць гэтую справу. Вось у гэтай сітуацыі Скепка прыабяцаў, што калі ў канцы верасня 90 г. я буду ў Гайнаўцы, ягоная жонка перадасьць мне арыгінальныя дакументы пераказу інструментаў, каб канчаткова палагодзіць гэтую справу. Калі я наведаў Скепкаву хату, ягоная жонка сказала, што нічога пра гэта ня ведае.

Многа разоў неафіцыйна даходзілі да нас негатыўныя весткі адносна нязгоднага прызначэньнем выкарыстоўваньня інструментаў "Дубінамі" і іхняга застойнага прагрэсу як музыкантаў. У апошнім часе пацьвердзілі гэта "басаўцы" і многія іншыя зацікаўленыя асобы. Аднак, нягледзячы на гэта, уважаю, што звыш трохгадовая ігнараванне ўмоваў кіраўніком ансамблю сп-м Скепкам ёсьць ня толькі прычынай, а нават нашым абавязкам забраць ад "Дубінаў" давераныя ім інструменты.

Паводле ўмовы, мужы даверу могуць пераказаць інструменты іншым асобам ці ансамблю, калі ўважаюць гэта карысным для развіцця беларускай культуры, нават калі карыстальнікі не парушаюць умоваў іх карыстаньня. Каб пазбыцца магчымага канфлікту са Скепкам, па просьбе сп. В.Стахвюка ад БДА, сп. Я.Запруднік пераказаў Скепку, каб на час ягонага побыту ў ЗША перадаў ён інструменты на рукі сп. Я.Максімюка або В.Стахвюка. Пачуўшы гэта, Скепка моцна абурыўся. Калі ў лістападзе 1990 г. спалучыўся я са Скепкам, каб даведацца як прадстаўляецца гэтая справа, абураны, Скепка адказаў, што плюе ён на "маіх" мужоў даверу й толькі са сваімі музыкантамі вырашае аб лёсе інструментаў.

Яшчэ сказаў, што інструменты аддасьць, калі звернуцца яму кошты транспарту з Гдыні ў Гайнаўку (12 тыс.зл. тры гады назад) і кошты іхняга нібы ўкладу ў гэтыя інструменты падчас карыстаньня імі. Я адказаў сп-ру кіраўніку, што кошт карыстаньня гэтым абсталяваньнем ёсьць куды большы за іхні ўклад, калі зусім можна прызнаць за нейкі ўклад ансамблю "Дубіны". Паводле ўмовы, карыстальнікі забавязаны пакрываць усе кошты ўтрыманьня інструментаў.

У сьнежні 1990 г. атрымаў я ад Скепкі ліст, у якім ён піша: "Паважаны спадар А.Палескі. Твой тэлефон моцна мяне ўсхваляваў, але дам сабе рады і з гэтай праблемай. Справа ідзе пра інструменты, якія былі закупленыя з грошай, сабраных ад усіх амерыканцаў Беларусаў, якія жывуць у ЗША й Канадзе, а не таварыствам "Беларусь", якія абсалютна не знаюць, што Ты з намі гуляеш як з сабакам, для якога паказаў каўбасу ўвязану на пальцы. І тут маю да Цябе просьбу, падай лісту людзей, якія далі грошы на гэтыя інструменты. Калі гэтага ня зробіш, сам дайду пры дапамозе маіх сяброў хто даў і колькі. Другая справа то прышлі пратакол сабраных мужоў даверу, ў якім знаходзіцца матывацыя і дэцызыя. Ня знаю, ці Ты паінфармаваў мужоў даверу, што я хачу пратакол забачыць раней перад тым, як аддам інструменты, каб копію выслаць у падаткавую (мытную, — А.П.) інстанцыю. Гэта мушу зрабіць, каб ня прышлось бацьку прадаваць гаспадарку. Пятро С."

Пасьля таго я кансультаваўся ў гэтай справе з вышэй пералічанымі мужамі даверу і з многімі зацікаўленымі гэтай справай беларускімі грамадскімі дзеячамі Паўночнай Амэрыкі. Усе з іх былі гатовыя зрабіць свае намаганьні на Скепку, каб той звярнуў паверанае яму абсталяваньне. Гэтыя апошнія кажуць, што першымі інтэрвенцыю рабіць маюць мужы даверу. Аднак мужам даверу сп. Скепка не даставіў да падпісання дакументаў, паводле якіх яны могуць узняць нейкую акцыю.

Такім чынам замыкаецца глухое кола, якое ўзнікла з прычыны безадказнасьці кіраўніка "Дубінаў" і іншых яго членаў, якія таксама маўчаць як набраўшы вады ў рот. Нядаўна сп. Скепка ў размове з сп-яй Алай Орса-Романо сказаў, што не аддае інструментаў, каб не прапалі, бо сапраўды няма каму іх аддаць. Гэтае наіўнае стаўленьне Скепкі не патрабуе ніякага камэнтару.

Спадзяюся, што чытаючы гэты зьмест, паважаны сп. Скепка здагадаецца зірнуць у залучаныя яму дакументы пераказу інструментаў, каб даведацца, каму пераказаць паручаныя яму інструменты, каб не прапалі.

Алесь Палескі.
"Зважай" № 67,
чэрвень, 1992.

Фотаплакат № 51 



## У ЛОГАВЕ МАШЫНЫ

Музыка А. Іванова
Словы А.Касценя

Тонка сабраны,
Глыбока схаваны,
Супер-камп‘ютэр на сон свой забыў.
І абамлелі над акіянам
Сотні вятроў ад яго варажбы.

Гэта машына!
У кожнай дэтальцы
Столькі работы — нібыта брыльянт.
Цягне блішчастае
Неандэртальца:
Вось бы пакратаць — што выдумаў брат?..

І ажывае бяздонная цемра:
Цягнуцца, цягнуцца...
Латы...
Крыжы...
Цягнуцца рукі —
Дотык нясцерпны...
Вось ападаюць аховы брыжы,

І авалодвае ў цемры машыннай
Жах, які зведаў здаўна чалавек,
Жах беспрычынны, халодны, мышыны.
І выдаецца каманда...
На век?

# БЛІЗ

Наш сённяшні постар — з гісторыі беларускага рока. Гурт "Блізняты" быў заснаваны ў пачатку 80-х гадоў у Менску.

1983-85 гады калектыў актыўна выступае ў тэлевізійных і радыёпраграмах, дае канцэрты, шукае аднадумцаў.

У 1985-86 "Блізняты" побач з "Мрояй", "Бондай" "Магістратам" сталі ініцыятарамі стварэння ў Беларусі нацыянальнага рок-клуба "Няміга", прымаюць актыўны ўдзел у ягонай працы.

Стылістычна "Блізняты" належалі да сімфа-рока. Найбольш выбітнай іхняй працай у гэтым кірунку была сімфа-рок-паэма "Сёмая хвіліна", урывак тэксту з якой і змешчаны на гэтым постары.

"Чырвоная змена" адкрыла гэты калектыў для сваіх чытачоў 13 лістапада 1986 года, змясціўшы артыкул А.Мяльгуя "Не згубіць сваю ноту", які потым трапіў і ў першую беларускую рок-энцыклапедыю "Праз рок-прызму" (Нью-Йорк, "БІНІМ", 1989).

Асноўны склад гурта — Андрэй Іваноў (гітара), Андрэй Талкачоў (клавішныя, вакал), Аляксей Генералаў (бас-гітара), Сяргей Старыковіч (бубны), Зміцер Платко (гукарэжысура).

У 1988-м "Блізняты", на жаль, спынілі сваё існаванне: Зміцер Платко эміграваў у ЗША, Андрэй Іваноў залажыў новы гурт "Зарціпо", Андрэй Талкачоў перайшоў у "Спадар Бользэн"... Але след, які пакінулі "Блізняты" ў гісторыі беларускага року, застаўся, бо гэта быў пачатак і не абы які.

**Фота З.Лукашука.**



# ЗНЯТЫ





# ФОНД ДАПАМОГІ... ПРОСІЦЬ ДАПАМОГІ

*Ёсць у Мінску камітэт "Дзеці Чарнобыля", які займаецца дабрачынкай дзейнасцю — дапамагае сем'ям пацярпеўшых ад чарнобыльскай катастрофы. Камітэт зрабіў нямала добрых спраў, але ў апошні час дзейнасць яго крыху звузілася: на рахунку, як кажуць, ні граша, ні шыша. Мяркуйце самі: вось ужо чацвёрты месяц, як яго сімпатычны старшыня Тамара Васільеўна Белавокая не можа нават выплаціць заработную плату чатыром штатным супрацоўнікам.*

Тамара Васільеўна — урач клінікі НДІ радыяцыйнай медыцыны. Дабрачынкай дзейнасцю займаецца, так сказаць, па сваёй душэўнай перакананасці (г.зн. на грамадскіх асновах). І хоць справы часам ідуць не так, як задумана, адступаць не збіраецца.

Зарэгістраваны камітэт "Дзеці Чарнобыля" ў канцы 1990 года. Што ж зроблена за гэты час? З буйных мерапрыемстваў — у кастрычніку таго ж года праведзена Усесаюзная канферэнцыя па праблемах дзіцячага харчавання ва ўмовах забруджання тэрыторыі радыенуклідамі. Дададзім, што падобная канферэнцыя праводзілася ўпершыню ў былым Саюзе са дня чарнобыльскай катастрофы. Па выніках канферэнцыі членамі камітэта і навукоўцамі была падрыхтавана вельмі патрэбная кніга па дзіцячаму харчаванню. Але выдаць яе і да цяперашняга часу не ўдалося: патрабуецца 300 тысяч рублёў. Грошай, як ужо вядома, у камітэце няма.

Гэтай вясной яны падключыліся да практычнага вырашэння вельмі важнай праблемы — медыка-псіхалагічнай рэабілітацыі ахвяр Чарнобыля. Перад беларускімі ўрачамі паўстала пытанне: як знізіць спалучэнне саматычных і нервова-псіхалагічных захворванняў у людзей, пацярпеўшых ад аварыі на ЧАЭС? У выніку даследаванняў яны вызначылі, што яшчэ да лячэння перш за ўсё трэба зняць у чалавека нервовы стрэс. Метаду рэабілітацыі дала высокую ацэнку віцэ-прэзідэнт ЮНЕСКО па праблемах Чарнобыля прафесар, доктар медыцынскіх навук Эрыка Шухгальт. Яна рэкамендавала год правесці паўторнае абследаванне людзей па прапанаванай методыцы.

Камітэт дабіваецца вытворчасці дзіцячага харчавання з экалагічна чыстай сыравіны. Тамара Васільеўна расказала ў сувязі з гэтым сумную гісторыю "супрацоўніцтва" з нямецкімі спецыялістамі. Прыехалі яны неяк да нас і паспрабавалі знайсці ўчастак зямлі, дзе б не выкарыстоўваліся пестыцыды. А калі (нарэшце!) знайшлі тое, што шукалі, у невялікіх памерах, то аказалася, што жывёліну (канкрэтна кароў, якія ў асноўным у Беларусі лейкозныя) нельга выкарыстоўваць для патрэб дзіцячага харчавання. Так і паехалі немцы дамоў ні з чым.

Думалі "застаўбіць" зямельны масіў каля чатырохсот гектараў у раёне Віцебшчыны, арганізаваць там спецыялізаваную гаспадарку з перапрацоўкай сельгаспрадукцыі. Але не атрымалі ад дзяржаўных структур ніякай дапамогі.

Так і засталася рэспубліка без сваёй вытворчасці экалагічна чыстага харчавання. Добра, што хоць камітэт пастаянна сочыць за тым, каб быў наладжаны кантроль за прадуктамі. З гэтай мэтай і была створана ў Мінску свая незалежная радыёметрычная лабараторыя, дзе купленыя насельніцтвам прадукты правяраліся бясплатна. Але аднойчы ў камітэце не аказалася грошай на ўтрыманне штату лабараторыі і ён вымушаны быў яе перадаць. Вы можаце спытаць: а куды ж ідуць сродкі, што паступаюць ад розных дабрачынных арганізацый? Адказваю: на аплату дзіцячага замежнага турызму. Дарэчы, погляд на дзіцячы турызм у старшыні камітэта "Дзеці Чарнобыля" своеасаблівы, арыгінальны. І яна, напэўна, мае рацыю, калі гаворыць:

— Сёння робіцца выгляд, што дзеці пасля паездкі за мяжу становяцца здаравейшымі, а я лічу, што гэта марная трата грошай. Па-першае, едуць не ўсе дзеці, што адмоўна ўздзейнічае на псіхіку тых, хто застаецца. Па-другое, малыя ўсё роўна вымушаны вяртацца ў небяспечныя для пражывання раёны. А па-трэцяе, мы фарміруем у дзяцей рысы жабрацтва, папрашайніцтва. Лепей было б займацца выяўленнем ранніх захворванняў у дзяцей і лячэннем з прымяненнем найноўшай апаратуры на месцах.

У сувязі з вышэйсказаным Тамара Васільеўна яшчэ ў 1990 годзе ўступіла ў перагаворы з Міністэрствам аховы здароўя рэспублікі аб арганізацыі выязных дыягнастычных цэнтраў. Але шырокай падтрымкі яе прапанова чамусьці не атрымала. Удалося толькі арганізаваць адзін цэнтр на базе Мінскага медыцынскага інстытута, які паспеў ужо правесці комплекснае абследаванне дзяцей з Валожынскага раёна.

Медыкі перасоўнай лабараторыі і члены камітэта "Дзеці Чарнобыля" не толькі выяўляюць захворванні ў дзяцей. Яны арганізоўваюць кансультацыі і лячэнне іх у клініках і амбулаторыях Мінска. Людзі не лічацца з асабістым часам, працуюць у асноўным у выхадныя дні. У кожным забруджаным раёне ёсць так званыя чарнобыльскія грошы, на якія мясцовыя ўлады змогуць аплаціць паслугі мінскіх медыкаў. Была б толькі цікавасць да гэтай справы.

Калі камітэт толькі ствараўся, яго заснавальнікі разлічвалі арганізаваць сетку малых прадпрыемстваў, якія б падтрымлівалі іх матэрыяльна, бо на справе ні адно з дзяржаўных прадпрыемстваў не пералічвае сродкі на дабрачынныя мэты. Аднак у нас адносіны да малога бізнесу і падатковай палітыкі такія, што гэтым прадпрыемствам у пару было абанкруціцца. Нават тыя з іх, якія працуюць на чарнобыльскую праграму, плацяць так званы "чарнобыльскі" падатак!

У сувязі з тым, што нашы дзяржаўныя структуры не знайшлі сродкаў для камітэта "Дзеці Чарнобыля", яго заснавальнікі вымушаны былі звярнуцца па дапамогу да замежных вучоных. Так, у Мюнхене існуе буйнейшы ў Еўропе навуковы цэнтр "Абарона навакольнага асяроддзя".

Нямецкія вучоныя прапанавалі шэраг праграм для сумеснай работы з нашымі спецыялістамі, прычым, яны гатовы фінансаваць большую частку праектаў.

Але камітэту трэба існаваць сёння, і дапамога яму неабходна не ў перспектыве, а зараз. Яго супрацоўнікі размяшчаюцца ў двух невялікіх пакоях гасцініцы "Алгарытм", што на вуліцы Прытыцкага ў Мінску. Кожны квартал прыходзіцца выплачваць арэндную плату звыш 30 тысяч рублёў. Зварот да дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Леаніда Радкевіча нічога не даў...

Камітэт "Дзеці Чарнобыля" — структура недзяржаўная, але ж ці з'яўляецца гэта падставай для таго, каб дзяржава адмахвалася ад патрэб дабрачынных арганізацый? Тым больш калі справа датычыць дзяцей?

В. Равяка.



# “Наступны прыпынак – Прылуцкая”

**Мінуў год, як у Мінску быў створаны Міжведамасны савет па барацьбе з заразнымі венерычнымі захворваннямі і СНІДам. Пра тое, якія змены адбыліся ў гэтай галіне, нашаму карэспандэнту расказаў галоўны ўрач рэспубліканскага скурна-венерычнага дыспансера Аляксандр Васільевіч Балакіраў:**

— Яшчэ два гады таму рэспубліканскі скурна-венерычны дыспансер у Мінску ўяўляў сабой недагледжаны будынак, месца, якое людзі грэбліва абыходзілі бокам. Нават калі ў вас было проста якое-небудзь захворванне скуры, ехаць туды не хацелася — а раптам падумаюць, што вы хворыя "нехорошей болезнью"? Ці з цягам часу комплексаў становіцца менш, ці адрамантаваныя, чыстыя, акуратныя памяшканні дыспансера спрыяюць змяненню псіхалагічнага становішча, толькі маці пакідаюць тут сваіх дзяцей для лячэння без сварак.

А хворых людзей шмат. Сёння ўзровень венерычных захворванняў па рэспубліцы набліжаецца да таго, які быў пасля другой Сусветнай вайны. У параўнанні з мінулым годам паказчык колькасці вензахворванняў і заразных хвароб скуры ўзрос у 2—2,5 раза. Калі ў Мінску агульнае становішча дастаткова здавальняючае, то пра абласныя цэнтры гэтага не скажаш.

На думку галоўнага ўрача скурна-вендыспансера А.В. Балакірава, такая сітуацыя абумоўлена эканамічна-сацыяльным спадам, неўладкаванасцю, нестабільнасцю грамадства.

Расце колькасць людзей, хворых на сіфіліс і ганарэю. Абывацельскія адносіны, нізкая адукаванасць насельніцтва ў пытаннях гігіены і полу (дарэчы, колькі можна? Ёсць жа шмат літаратуры, і не толькі нізкапробнай) вядзе да таго, што людзі займаюцца самалячэннем ці лечацца падпольна. Часцей за ўсё ні той, ні другі спосаб папраўкі не прыносяць.

Скарыстоўваючы вопыт цывілізаваных краін, краін Прыбалтыкі, абласцей Расіі, з лютага месяца бягучага года побач з дыспансерным метадам уведзена платнае амбулаторнае ананімнае лячэнне. Жадаючых стаць здаровымі шмат. Штодзённа ўпершыню звяртаецца 15—20 чалавек. Выпадкаў перапынення лячэння або знікнення пацыентаў няма. Кошт абследавання складае 200—250 рублёў, абследавання і лячэння — каля 700 рублёў. Дарэчы, дыспансернае лячэнне таксама праводзіцца без аглоскі.

Калі ганарэя стала дастаткова звыклай хваробай, то ўрыаплазмоз, хламідыёз, гарднэрылёз палохаюць не толькі сваіміназвамі. Сярод захворванняў, якія перадаюцца палавым шляхам, гэтыя займаюць цяпер першае месца. Калі ганарэю дастаткова лёгка дыягнастыраваць, то для дыягностыкі вышэйпералічаных хвароб неабходна спецыяльная лабараторная тэхніка, якой у нас няма, або, скажам мякчэй, вельмі мала. Урыаплазмоз, хламідыёз, гарднэрылёз выклікаюць у жанчын спачатку запаленчы працэс, потым — бясплоднасць, у мужчын — запаленне і імпатэнцыю.

У студзені гэтага года адкрыўся цэнтр па лячэнню хвароб, якія перадаюцца палавым шляхам. Цэнтр абсталяваны эндаскапічнай апаратурай германскай фірмы "Шторц". Лячыцца тут можна стацыянарна (стацыянар разлічаны на 40 чалавек) і амбулаторна. У састаў цэнтра ўваходзяць амбулаторныя ўралагічны і гінекалагічны кабінеты, дзе працуюць высакакласныя спецыялісты.

Лічбы, тэрміны... Халодныя, далёкія. Але за імі стаяць жыцці людзей і, самае галоўнае, дзяцей.

У "пашырэнне" венерычных захворванняў вялікі "ўклад" уносяць падлеткі. На сённяшні дзень падлеткавыя вензахворванні дасягнулі 40-працэнтнай адзнакі.

Яшчэ і цяпер няма яснай фармулёўкі такой з'явы, як прастытуцыя. У далёкім мінулым пра насмарк гаварылі, што "нос дрэнна сябе паводзіць". Сёння прастытуткі — "асобы, якія вядуць бязладнае палавое жыццё і прыстаюць да замежных грамадзян". Магчыма, гэта ўсё тая ж сарамлівасць. Ва ўсіх цывілізаваных краінах свету існуе і дзейнічае "паліцыя нораваў". Толькі не ў нашай, і не таму, што "сексу ў нас няма". Ідэя стварэння паліцэйскага нагляду ўпёрлася ў непераадольную сцяну — адсутнасць грошай. Пункт гледжання спецыялістаў: служба неабходная, у міліцыі сваіх спраў хапае.

Якая ні банальная гэта думка, але так часта плата за нядоўгае задавальненне — хвароба. Цэны тут ніколі не зніжаюцца, не павышаюцца, але ўсё роўна — ці не дарагавата? Ці не лепш кіравацца парадай спецыялістаў? І калі ўжо нельга ўтаймаваць сексуальную энергію,— выкарыстоўвайце "сродкі індывідуальнай аховы засцярогі". Праўда, адзін прэзерватыў каштуе ў камерцыйнай краме 5-10 рублёў... Усюды — гэтая ўчэпістая камерцыя. А мо, хутка ў нас пачне працаваць завод па вытворчасці прэзерватываў, і тады іх будуць за капейкі прадаваць у грамадскіх туалетах, як, напрыклад, у Швецыі?

Можа, калі-небудзь будзе і так.

Жанна ПАЦЕЕНАК.



Давайце пастараемся засвоіць адну простую рэч: не ўсе, далёка не ўсе, хто трапляе ў скурна-венерычны дыспансер і праходзіць там курс лячэння, — "кончаныя" або "адпетыя". Жыццё такое складанае, такое шматаблічнае і так часта падносіць нам сюрпрызы... У прынцыпе, "дамоклаў меч" вісіць над кожным. Можна штодзень мяняць палавых партнёраў — і шчасліва дажыць да старасці, а можна адзін раз аддацца каханаму — і заразіцца ганарэяй. Словам, выпадковасцей шмат.
Будзем жа спагадлівымі і гуманнымі. У адносінах калі не да ўсіх, то хаця б да тых, каго справядліва можна назваць ахвярамі. Ахвярамі даверу, няведання, насілля... Памятайце: на іх месцы мог апынуцца кожны. І таму не судзіце строга...

# “ТАДЫ Я ЗБЕГЛА З ДОМУ...”

**... Аня, калі ёй паставілі дыягназ "узыходзячая ганарэя", месца сабе не знаходзіла. Плакала і ўдзень, і ўночы. Ды толькі слязамі зробленае не выправіш.**

**Яна зусім маладзенькая, гэтая дзяўчына. Толькі вясной скончыла дзевяць класаў сярэдняй школы. Хацела паступіць у вучылішча на кандытара, каб аб'ядацца цукеркамі, а трапіла сюды, у венерычнае аддзяленне.**

— Дамоў табе хочацца? — пытаюся ў Ані.

— Тут мне нават лепей — не сумна. Адносіны паміж хлопцамі і дзяўчатамі добрыя. Мы не сварымся ніколі. А дамоў не хачу. Там заўсёды адно і тое ж — п'янкі, скандалы. І сяброў у мяне цяпер няма, не хачу іх знаць.

— Чаму?

— Дык з іх жа ўсё пачалося. Сярод маіх сяброў ты нішто, калі не маеш грошай на выпіўку, цыгарэты.

— А якога ўзросту твае знаёмыя?

— Дваццаць два—дваццаць пяць год. Гэта хлопцы. А дзяўчаты — мае аднагодкі і крыху старэйшыя. Ды я зусім не люблю з дзяўчатамі падтрымліваць адносіны. У іх у галаве адны "шмоткі", кожны перапынак размовы ўсё тыя ж. Я лепш пайду да хлопцаў — з імі хоць пасмяяцца можна, настрой узняць.

Аня з дзяцінства любіла гуляць з хлопчыкамі ў вайну ды машынкі, а не важдацца з лялькамі.

— Аня, але ж заўсёды чалавеку неабходны самы блізкі сябар. Ці быў у цябе такі?

— Была ў мяне сяброўка. Ды толькі з яе дапамогай я пачала піць, курыць. У "яе" вёсцы мяне і згвалтавалі тры хлопцы.

— Вы разам выпівалі?

— Не, усе былі цвярозыя, проста згвалтавалі і ўсё.

— А ў цябе было жаданне як-небудзь пакараць гэтых хлопцаў?

— Не. Навошта? Яны і так ужо "кончаныя" людзі.

Адказ Ані мяне здзівіў, бо калі б я апынуўся на месцы дзяўчыны, то мной авалодала б вялізнае жаданне адпомсціць.

Дома Аня нічога не сказала, але маці (калі даведалася) учыніла сварку. Дзяўчыне збірацца доўга не трэба было, яна пайшла да бабулі. Тая, насуперак звычкам, таксама накінулася на ўнучку.

Тады Аня ўцякла з дому. Дзе жыла? У нейкім лагеры, з нейкімі знаёмымі.

— Аня, а ты не думала, што твае родныя будуць хвалявацца?

— Не думала. Тут на душы і так "кошкі скрабуць", а яны замест таго, каб дапамагчы, мне яшчэ дабавілі. Маці ніколі не разумела мяне, заўсёды "выхоўвала", калі вып'е. А мне хацелася ўсё рабіць насуперак. Айчым да мяне адносіцца добра, сюды часта прыходзіць, хоча, каб я хутчэй паправілася.

— Ты, калі вылечышся, чым будзеш займацца?

— Пайду працаваць на завод.

— Грошы патрэбны?

— І грошы патрэбны, і вопыт. А ў наступным годзе пайду ў тэхнічнае вучылішча.

— А як жа цукеркі?

— На кандытара конкурс вялікі, я не паступлю.

Аня — сімпатычная дзяўчынка з прыгожымі карымі вачыма і пухлымі вуснамі. Яна ўсміхаецца, калі пытаюся, ці хацела б яна ўдзельнічаць у конкурсе прыгажосці. "Ну і пытанне! Хто ж не хацеў бы?"

— А што б ты зрабіла, калі б нечакана атрымала вялізнае багацце?

Аня на хвілінку задумваецца.

— Спачатку купіла б сабе некалькі "шмотак", а астатнія грошы аддала б дзіцячаму дому ці купіла б на іх завод і падарыла б якому-небудзь беднаму чалавеку. Яшчэ і рабочых у дадатак.

— А дзяцей ты любіш, хочаш мець сваю сям'ю?

— Дзяцей люблю, асабліва маленькіх. І сям'ю хачу. Толькі дзе ж яго знайсці — добрага, чулага, сапраўднага мужчыну? Сённяшнім хлопцам што трэба? Ён тыдзень з табою паходзіць, а потым, калі ў пасцель не хочаш класціся, — да пабачэння. Пра якую сям'ю можа ісці размова?

Але Аня ўсё ж спадзяецца, што калі-небудзь яна сустрэне мужчыну, які стане ёй сябрам. Дзяўчына любіць марыць. І падарожнічаць у марах. "Што там, за гэтым лесам?" — пытаецца яна ў мяне. Я не ведаю. Яна таксама.

П.КРЫЛОВА.

Міхась ВЫШЫНСКІ

# ЗОРНАЯ ДЗЯЎЧЫНКА

## Паўфантастычнае апавяданне



Яшчэ ў сне Каралінка адчула радасць. Усеабдымную, мяккую і цёплую, як матчына ласка. Дзяўчынка прачнулася і ціхенька выбегла на падворак у прадчуванні небывалага цуду. Прыціхла, прыпадняла галаву. Урачыста і велічна плыла над зямлёй зорная летняя ноч. Было ціха-ціха, так, што яна чула, як б'ецца яе сэрца. У гэтай перадсвітальнай цішыні ноч, адчувалася, неяк даверліва і лёгка адкрывала ўсе свае таямніцы. Яна змушала сцішыцца да бязважкасці і зразумець іх усе. Адчуць бязмежнасць Сусвету і яго зазыўныя поклічы. Убачыць, як над Зямлёй блукаюць прывідныя цені — цені зорных істот.

Каралінка сцішылася і пачула, як перамаўляюцца між сабой дрэвы і растуць-вырастаюць амаль на вачах — імкнуцца быццам да зорак. А зоркі... Яны гараць, перамiргваюцца між сабой — як перагукваюцца.

Вось успыхнула і пакацілася небасхілам адна невялічкая Зорка. Яна разгаралася, большала, набліжалася. І тым часам хтосьці клікаў, зазабліваў дзяўчынку да яе. Каралінка страпянулася: што ж гэта? Ці ж тыя знаёмыя ёй аруэлцы, іншапланецяне, з якімі яна такой жа пагоднай летняй ноччу падарожнічала між зор.

"Авой, дык яны ж абяцаліся,— нечакана ўспомніла дзяўчынка,— прыляцець сёлета зноў па яе і па Надзейку, сяброўку. Ды не калі-небудзь, а сёлета і такой вось летняй зорнай ноччу".

Каралінка зажмурылася і, нібы наяве, убачыла і тую ноч, і тое падарожжа. Ноч была гэткая ж пагодная і бязмежная, як цяпер, і гэткая ж усеабдымная радасць раскатурхала, вывела дзяўчынку пад яе зорны дах. Яна выйшла і замерла: здалося, проста на яе ляцела прамяніста-яркая і вялікая зорка. З кожнай хвілінай ярчэла, набліжалася, пакуль не дасягнула палявога кургана за садам. Тут гул апаў, стаў роўным, стоеным, а святло знерухомела, застыла.

Каралінка выбегла за сад і вачам сваім не паверыла. На прылесным полі, на кургане, гарэла, высвечвалася знутры не зорка, а штосьці мудрэй за яе... Штосьці падобнае на агромністую вінаградную гронку.

"Мамачкі мае, то ж не іначай, як зоркалёт!" — ашаломлена ўтаропілася дзяўчынка.

А карабель тым часам ціхенька пазыбваў святлом, строма прыпадняўшы нос пад неба. Да самай яркай, блакітнай і мігатлівай зоркі-планеты. Каралінка не ведала яе назвы, але неяк адразу здагадалася, што яна — радзіма гэтага зоркалёта.

— Ты не памылілася, мілае дзіця!— гулкім, нейкім быццам бяздонным касмічным рэхам адгукнуўся на яе здагадку чыйсьці голас. — Яе, нашу планету, завуць Аруэ-элу-ус. Запомні — гэта важна не толькі для нас. Для цябе таксама — Ару-у-э-э-л-л-ус...

Момант — і пукаты люк на бакавіне зоркалёта расхінуўся. Адтуль лёгенька, нібы сама сабой выслізгнула іскрыста-блакітная лесвіца. Двое незямлян як бач апынуліся на ёй. Абое рослыя, лабатыя, з застыглымі позіркамі, бязносыя і бязвухія. У блакітных, быццам гумовых касцюмах, якія шчыльна аблягалі іхнія постаці.

Спусціўшыся на зямлю, яны пільна агледзеліся, аб чымсьці, спяшаючыся, загаварылі. Ды так заклапочана, засмучана, нібы ім штосьці вельмі моцна забалела.

"Ах, ты Зямля-бедалажка! Атручаная, знявечаная... Як шкадуюць цябе зорныя госці!"— зноў зразумела іншапланецян Каралінка.

Але вось тыя ўсе разам як прачнуліся, заўсміхаліся і не пайшлі — паплылі да яе. Нетаропка са спагадна зычлівымі позіркамі і тварамі, так, нібы даўным-даўно ведалі яе. І яна іх. Але дзе, калі яна бачылася, сустракалася з імі? Відаць, у снах, ага, у снах.

— Добрай раніцы, Аруэлка!— як падышлі, у адзін голас павіталіся аруэлцы.

— Раніцы? Чаму раніцы? Да яе яшчэ няблізка,— неймаверна здзівілася дзяўчынка?— І якая я Аруэлка?— Я — Каралінка з Дзедава,— аглянулася яна на вёску... І... І адкуль вы... вы, незямныя людзі, ведаеце мяне?!

— Мы ўсё ведаем, Аруэлка! І што цяпер раніца, але не тут, а вунь там, на нашай радзіме,— паказалі яны на самую вялікую і яркую зорку над зоркалётам.— І што сапраўднае тваё імя Аруэлка, а не Каралінка, бо ты павінна была нарадзіцца на нашай зорцы-планеце, а не тут, на Зямлі. Ты па зорнаму знаку і душэўнаму складу — зорнае дзіця, а не зямное. І таму ты — Аруэлка, сястрыца наша, а не Каралінка. І мы прыляцелі, каб забраць цябе да нас. Бачым: сумна, горасна на тваёй Зямлі. І не табе тут жыць. Дык паедзем? То пайшлі!..

— Гэтак вось, адразачку?! Ой, не, не!.. Дайце падумаць,— ашаломлена ўскінула, як бы баронячыся ад гасцей, рукі Каралінка.— Ой, не палячу!— апусціўшы галаву, неўзабаве прашаптала.— Я баюся, мне страшна... Як жа я пакіну тут сваіх маму, тату?! Яны ж, калі не знойдуць, больш не пабачаць мяне, злягуць ад гора. Пасля тут у мяне Надзейка, суседка, сяброўка. Як жа я пакіну яе, хворую?! І зусім не гарушчая я, вартая жалю. Хоць бедная мая Зямля, але яна мая, мая радзіма!

— Не і не! Твая радзіма вунь яна, зорка Аруэлус,— ускінуў аператар вочы да небасхілу.— А што да бацькоў, то ты ненаўсёды іх пакідаеш: праз месяц вернешся. Дый яны будуць ведаць, дзе ты — мы пастараемся ўжо, паведамім ім. Сустрэнешся і з мамай, і з татам, і з сяброўкай Надзеяй — мы яе таксама ведаем. Хутка яна паправіцца, гэта мы абяцаем. Паглядзі вось сюды — гэта яна, твая Надзейка?— дастаў незнаёмец нейкую невялічкую бліскучую скрыначку і націснуў кнопку.

Тым жа момантам скрыначка засвяцілася матавым каляровым экранам. Экран крышку падрыжэў белым святлом, пакуль на ім не з'явілася сама Надзейка. Яна нічога не бачыла і не чула — сяброўка спала.

— Ну, калі так... калі не падманеце,— нерашуча, у задуменні прамовіла Каралінка і, знемагаючы ад страху і нейкай нечаканай і небывалай радасці, выдыхнула:— То згодна, палячу з вамі. Цікава ж бо паглядзець, якая яна ваша зорка-планета Аруэлус, другая, як вы кажаце, мая радзіма.— І тут дзяўчынка адчула сябе такой лёгенькай, бязважкай, што ледзь адштурхнулася ад Зямлі, падскочыла і нячутна паплыла, паплыла да зорнага карабля. Услед за гасцямі.

Прыплыўшы да люка, Каралінка спынілася, запытальна глянула на аруэлцаў-спадарожнікаў. Тыя без слоў зразумелі яе і адзін за адным нырнулі ў карабель. Апусціліся на круглую і бліскучую, што дыск, пляцоўку, узялі яе за рукі. Дзяўчынка — ні жывая ні мёртвая, з нерухомымі ад страху і здзіўлення вачыма пайшла за імі да серабрыста-белых, высокіх штораў.

Было, нібы перад навальніцай, ціха-ціха. Шторы неспадзявана падняліся — і дзяўчынка знямела. Адразу — што гром ці вадаспад — на яе абрынулася, як захліснула музыка. Гулкая, урачыста-высокая, незямная. Зорная музыка. Як бы грала адразу некалькі арганаў, і неаглядны хор нябесных галасоў падпяваў ім.

Аруэлка як сама не свая зайшла ў залу, высокую, бялюткa-белую, залітую роўным матавым святлом. Але ні арганаў, ні харыстаў нідзе не было відаць. Адно мігцелі, змейкамі іскрыліся, як ад электрычных разрадаў, сцены залы. Здавалася, гралі-спявалі самі сцены, само паветра ля іх.

"І ў самым казачным сне такога не пачуеш, не ўбачыш!..— падумала Аруэлка і, халаднеючы ад хвалявання, прыпадняла броўкі.— Авой, ці не самога Божаньку зараз убачу!?!— і ўтаропілася на агромністы круглы стол, што стаяў пасярод залы. Але... але музыка, хор нечакана заціхлі і да стала адразу з чатырох бакоў, з чатырох дзвярэй жывенька выйшлі нейкія дзядулі. У белых берэціках і накідках, з вострымі белымі бародкамі і прыплюшчанымі вачыма.

— Гэта нашы вучоныя, Аруэлка,— шапнулі ёй спадарожнікі — аруэлцы.— Слухайся іх.

Тым жа момантам з-пад падлогі выплылі, высока падняліся паліцы з таямнічымі скрыначкамі.

— А гэта наша бібліятэка. Камп'ютэрная,— зноў падказалі аруэлцы-аператары.— У ёй сабраны ўсе нашы веды пра тваю Зямлю і пра наш Аруэлус. А цяпер хутчэй пераапранайся,— падалі ёй спадарожнікі пругкі, бы з гумы, блакітны касцюмчык і блакітныя туфлі.

Белабародыя дзядулі тым часам пасталі радочкам ля стала.

— Падыдзі да нас, Аруэлка, — хуценька зірнуў на Каралінку самы стары і самы высокі дзядуля.

Дзяўчынка падышла.

— Пачнём з астраноміі,— сказаў ён.— А пасля возьмемся за медыцыну,— і паклаў ёй на лобік далоні, пачаў штосьці шаптаць-нашэптваць. Толькі цяпер Каралінка заўважыла, як ледзь-ледзь чутна зыбнуўся зоркалёт, адарваўся ад кургана і сігануў у касмічна-зорную бездань. Каб не лес, не месяц над ім — нізавошта не здагадалася б пра гэта. Ён ляцеў так імкліва, што часам здавалася, што карабель не ляціць, а стаіць на месцы.

А дзядулі па-ранейшаму па чарзе падыходзілі да дзяўчынкі, клалі ёй на галаву далоні і тварылі нібы малітву — кожны пасвойму і кожны сваю.

Ляцеў карабель, мільгалі паўз яго зоркі, планеты і сярод іх — ледзь прыкметнай светлай слязінкай яе родная Зямля. Аруэлка ўглядалася праз люк у іх і ёй здавалася, што яна ведае ўсё-ўсё пра іхняе жыццё. І што сама ўвачавідкі сталее, мужнее... Але дзіва: і смутак па сабе, ранейшай, малой і наіўнай, а найперш — па роднай і далёкай-далёкай Зямлі перахоплівяў дыханне, горкім камячком падкочваўся пад сэрца. І ўжо не радавалі дзяўчынку ні новыя веды яе, раскрытыя таямніцы, і тыя цудадзейныя здольнасці, якімі адарылі Аруэлку вучоныя- аруэлцы і пра якія тыя штохвіліны напаміналі ёй.

— У вас на Зямлі здарылася страшная трагедыя: Чарнобыль, атамны выбух, безліч ахвяр яго, хворыя, няшчасныя людзі. Ты павінна дапамагчы ім, павінна лячыць. Хаця б знаёмых, самых блізкіх.

— Але я не доктар. Я зусім яшчэ дзяўчынка...

— Не, цяпер ты ўрач. І больш умелы, чым самы вопытны доктар на Зямлі. Табе варта толькі пакласці на галаву хворага чалавека далоні, ласкава пагладзіць лоб і сказаць:"Вы спакойныя і радасныя. Не думайце пра боль і немач. Яны знікнуць, ужо знікаюць. Зараз вы станеце зусім здаровымі". А што да ўзросту, то ён не мае для цябе аніякага значэння...

— Але на Зямлі...

— А на Зямлі яго не будуць заўважаць: тут ужо мы пастараемся.

Вучоныя гаварылі праўду: цяжкахворых Чарнобыльскімі і нечарнобыльскімі хваробамі на Зямлі было шмат. У чарадзе іх — Надзейка і другая сяброўка Каралінкі — Светка. Яна, Каралінка, і сама, пэўна б, безнадзейна захварэла, калі б іх сям'я не выехала з атручанай радыяцыяй зоны пад вялікі і незнаёмы горад амаль адразу пасля таго жахлівага выбуху. А Надзейка і Светка засталіся: бацькі іх паверылі начальству: маўляў, нічога страшнага не здарылася, жыць тут можна, жахі выдуманыя. А калі нарэшце сем'і сяброваk усё ж выехалі, перасяліліся, Надзейка і Светка былі ўжо моцна хворымі. Часта прапускалі школьныя заняткі, ляжалі ў ложках. Былі бледныя, худзенькія, заўсёды хадзілі ў хустачках — у іх вылазілі валасы. Ды няўмольна хутка, хоць дзяўчынкі па парадзе матуль і націралі іх сокам цыбулі. А калі яны кідаліся ў гульні, то часта і нечакана спыняліся, замiралі, каб пераждаць галавакружэнне і слабасць.

Аднойчы сяброўкі так захапіліся гульнёй, што забыліся на сваю немач. Спахапілася Каралінка, калі раптам Светка і Надзейка, збялеўшы, як падкошаныя, пападалі на зямлю, і з носа ў іх зацурчэла кроў...

— Падрыхтуйся, Аруэлка, хутка будзем выходзіць,— схіліліся над ёй дзядулі-вучоныя і аператары.

Глянула Каралінка ў люк і аж хіснулася: проста на яе, здалося, імкліва наплывала агромністая, як не на ўсю чарнату неба планета. То была Аруэлус. Пясчана-жоўтая, бугрыстая, яна з краёў зіхацела, прамянілася, быццам плавілася. "Вось дык цуд!— адно падзівілася дзяўчынка.— Толькі што нібы развіталася з Зямлёй, і вось ужо побач, яна, тая таямнічая і недасяжная зорка-планета Аруэлус. Як хутка праляцеў час!"

— Ну, што тут незвычайнага,— адазваўся ў ёй як бы нехта другі, больш сталы і разважлівы.— Уся прычына ў хуткасці. Хуткасць скарыла і час, і прастору. Гэта магчыма, гэта закон Сусвету. "Значыць, я магу падлічыць. Калі я вярнуся на Зямлю праз месяц, то там пройдзе... Пройдзе амаль год,— на хвіліну задумалася і лёгка падлічыла Аруэлка.— Ну, месяц — гэта няшмат. І не агледжуся, як прамільгне ён. Дачакаюся сустрэчы з Зямлёй, з мамкай і таткам, з Надзейкай і Светкай",— заўсміхалася Каралінка і зноў паглядзела ў люк: зоркалёт зніжаўся.

І вось пад ім паказаўся горад... Таямнічы, незямны, ніколі нікім з зямлянаў нябачаны. Ва ўпадзіне між гор, на пясчанай даліне, уздымаліся дамы з дахамі-купаламі. Нібы касмічныя абсерваторыі. Між імі — глухія квадратныя пляцоўкі, і нідзе на іх ні чалавека, ні адзінага дрэва, ценю ад іх. Сонца стаяла цьмянае, як месяц, бяспромнае. Адно што над вуліцамі ляталі апараты, падобныя да стракоз.

Раптам на адным двары, больш прасторным за іншыя, паказаўся аруэлец з серабрыстай трубой. Ён звонка зайграў, затрубіў, і адкульсці, як з-пад долу, выхапіліся жыхары. Усе ў чырвоных трусах, голагаловыя. Яны стоўпіліся ля трубача, усе разам штосьці ўзрушана закрычалі і паднялі рукі, твары да зоркалёта, які ў той жа момант пачаў крута зніжацца...

...Вярнулася Каралінка на Зямлю, у сваю вёску, як і абяцалі аруэльцы, праз месяц, гэта значыць, калі браць зямныя меркі, праз год. Дзедава яе за гэты час зусім не змянілася. Затое моцна змяніліся бацькі, жыццё дома. Тата яе, пастарэлы і пацішэлы, адзін-адным уходжваўся дома, а мама ляжала ў бальніцы.

Убачыўшы дачку, тата знямеў ад разгубленасці і нячутна заплакаў. Дзяўчынка прыгледзелася і зразумела, што і татка не дужа здаровы. Неймаверна шчаслівая, яна з плачам кінулася яму на рукі. Абняла, пагладзіла па галаве, прашаптала, як замову, словы, пачутыя ад вучоных дзядуль у зоркалёце. І бацька няўзнак як перарадзіўся: павесялеў і нібы памаладзеў.

Тым жа днём Каралінка праведала сваіх сябровак: Надзейку і Светку. Помач ім ужо не спатрэбілася: аруэлцы даўно вылечылі іх.

А наступным ранкам дзяўчынка паехала з татам да мамы. Яна ехала і ўсю дарогу адчувала сябе вінаватай перад мамай. Гэта ж каб не яна, дачка, не яе раптоўнае знікненне з дому, мамка і цяпер была б здаровая. А так... Злягла ад горасных перажыванняў.

Яна ўжо ведала, што дамоў вярнулася дачушка, аднак без слёз сустрэча ўсё ж не абышлася. Шчаслівых слёз. Дачушка лашчылася да яе, пагладжвала яе і цалавала, і тым часам нашэптвала запаветныя словы. Пасля, заўважыўшы дзвюх колішніх аднакласніц, падсела да іх, памілавалася.

У хуткім часе і мама, і дзве тыя аднакласніцы, зусім здаровыя, выпісаліся з бальніцы.

Такі незвычайны выпадак і медсёстры, і хворыя не маглі не заўважыць.

— А ці дзіва,— гаварыла яе мама,— дачушка ж мая — зорная дзяўчынка. Пабывала там,— падымала ўгору руку.— Дзе нам ніколі не давядзецца пабыць. Таму і стала дзяўчынкай-чараўніцай.

З тае пары дзверы ў іх хату на зачыняліся: усё прыходзілі і прыходзілі да Аруэлкі-Каралінкі хворыя людзі.

Незвычайныя здольнасці да вучобы паказала яна і ў школе. Цалюткі год не хадзіла Каралінка на заняткі, а праграмны матэрыял за шосты клас дзяўчынка ведала нават лепш за самых лепшых вучняў. Настаўнікі сабралі камісію, учынілі ёй экзамен за тры наступныя класы і перавялі да дзевяцікласнікаў.

...Каралінка выбегла за сад, глянула на палявы курган. А там... там ужо стаяў, высвечваўся ў перадсвітальным паўзмроку зоркалёт. І двое знаёмых аруэлцаў ужо кіраваліся да яе. "Ляцець ці не?— трывожна задумалася дзяўчынка.— Мусіць, прыйдзецца, мусіць, такі ўжо мой лёс. Толькі палячу гэтым разам з Надзейкай і абавязкова развітаюся з мамкай і таткам".

Неўзабаве сяброўкі разам з аператарамі падыходзілі да зоркалёта. Гэтым разам зорны карабель быў зусім іншы, чым першы. Круглы і вастраносы, як велізарны ваўчок.

— Цяпер мы, Аруэлка, паляцім не да нас, а да нашых суседзяў — на планету Вазар,— сказаў адзін з аруэлцаў.

— Навошта, спытаеш? А затым, каб вы пасля расказалі сваім зямлянам пра тое, што там убачылі. Вы ведаеце, як дарослыя губяць прыроду, і тым самым сябе. Дык вось... Гэтак паводзілі і вазарцы... пакуль зусім не атруцілі паветра. І каб не вымерці зусім, яны перасяліліся жыць пад зямлю. Пабудавалі падземныя гарады, стварылі штучнае паветра і... І самі сталі нейкімі несапраўднымі, штучнымі. Але ўжо час — ляцім, даражэнькія.

Хутка карабель-ваўчок ужо высвечваўся над стара даўнім палявым курганам вялікай і мігатлівай зоркай.

*Маладой гаспадыні*

## ЧЫРВОНЫ БОРШЧ

**Чырвоны боршчз буракоў па праву лічыцца гонарам старапольскай кухні. Існуюць два класічныя варыянты баршчу: посны калядны і велікодны на мясным булёне.**

Абодва варыянты гатуюць на натуральным бурачным квасе.

Закваска буракоў — справа вельмі простая і лёгкая: каля 1,5 кг старанна памытых буракоў пачысціць, тонка наскрыляць, пакласці ў слоік і заліць крыху цеплаватай вадой. Зверху пакласці кавалак жытняга хлеба, што значна паскорыць працэс закваскі. Слоік абвязаць марляй і паставіць у цёплы куток кухні. Праз 2—5 дзён асцярожна зняць пену і пераліць празрысты рубінава-чырвоны бурачны квас у чыстыя бутэлькі. У шчыльна закаркаваных бутэльках і ў халодным месцы ён не сапсуецца на працягу некалькіх месяцаў.

Посны боршч гатуецца на адвары з агародніны. Агародніну (пятрушку, моркву, цыбулю-парэй і цыбуліну) зварыць разам з 4 наскрылянымі буракамі, дадаўшы 10 гарошын чорнага і 2 гарошыны духмянага перцу і маленькі кавалачак лаўровага лісту. У другой каструлі ў дзвюх шклянках вады зварыць 50—80 г белых сушаных грыбоў. Абодва адвары (з агародніны і грыбны) працадзіць праз сіта і змяшаць. Затым дадаць адпаведную колькасць бурачнага квасу (прыкладна на 1,5 л адвару 0,5 л квасу).

Боршч давесці да кіпення, але не кіпяціць. Калі колер баршчу недастаткова яркі, яго можна падфарбаваць сокам, выціснутым з сырога бурака. Запраўка баршчу — справа тонкая, але, вядома, залежыць ад індывідуальнага густу. Акрамя солі, дадаецца для смаку крыху цукру (воцат выключаецца). Тоўчаны зубок часнаку, пакладзены ў боршч за некалькі мінут да падачы на стол, надасць яму прыемны своеасаблівы смак і пах. Да баршчу па традыцыі падаюцца вушкі, па 6—8 на порцыю. Звараныя вушкі пакласці ў супніцу і заліць іх гарачым баршчом. Калі боршч падаецца ў булённіцах, да яго лепш падаць маленькія піражкі з пясочнага цеста з грыбамі.

### ВУШКІ ДА БАРШЧУ

Цеста: з 150 г мукі, аднаго цэлага яйка і каліва солі замясіць цеста. Яно павінна быць мякчэйшым, чым для локшыны. Старанна замяшанае цеста тонка раскатаць на дошцы і парэзаць на маленькія квадраты (4x4 см ці яшчэ меншыя). Чым меншыя вушкі, тым вышэй цэняцца кулінарныя здольнасці гаспадыні. На кожны квадрат пакласці крыху начынкі, зрабіць трохвугольнік, зашчыпаць, а потым злучыць процілеглыя вуглы. Вушкі апусціць у падсолены вар. Як толькі ўсплывуць — гатовы.

Начынка: вараныя грыбы (адвар якіх уліць у боршч) здрабніць, падсмажыць на масле з невялікай дробна нарэзанай цыбулінай і старанна змяшаць з 1 ст. лыжкай тоўчаных сухароў і цэлым сырым яйкам, пасаліць і папярчыць на смак.

### ПІРАЖКІ ДА БАРШЧУ

Пясочнае цеста: 200 г мукі, 120 г масла і невялікае сырое яйка ці 2 сырыя жаўткі, ст. лыжка смятаны і палавіна чайнай лыжкі солі. Пералічаныя кампаненты змяшаць, пасячы нажом, а потым хуценька замясіць цеста, якое павінна "адпачыць" у халодным месцы 30 мінут. З тонка раскатанага пласта выразаць чаркай кружкі, на кожны пакласці крыху грыбной начынкі, прыгатаванай як для вушак, зашчыпаць краі і сфармаваць піражок. Пакласці піражкі на бляху і пячы ў гарачай духоўцы да ўтварэння залацістай скарыначкі. Падаваць гарачымі ці разагрэтымі ў духоўцы.

*Зрабіце самі*

## ВАННА ДЛЯ ПАРАСОНА

Калі ваш парасон запэцкаўся, яго лёгка можна асвяжыць. У цёплай вадзе трэба развесці парашок тыпу "Лотаць", палажыць у яе ў паўраскрытым выглядзе парасон на 5—10 мінут. Затым акуратна шчоткай або губкай пацерці ўсе кліны парасона, не раскрываючы яго, каб увесь парасон быў у вадзе. Затым парасон апаласнуць чыстай вадой, зручней гэта зрабіць з душа.

Моцна запэцканы парасон можна пачысціць нашатырным спіртам (1/2 шклянкі), разведзеным у адным літры вады. Ваш парасон будзе як новы.

## КАЛІ БОТ "ПРОСІЦЬ КАШЫ"...

...Узбройцеся наждачнай паперай, буйным напільнікам, нажом і старым галёшам і займіцеся рамонтам самастойна.

Для пачатку месца, на якім неабходна налажыць латку, зачысціце буйным напільнікам, потым патрыце яго наждачнай паперай і прамыйце бензінам.

Тыя ж самыя маніпуляцыі паўтарыце з выразанай са старога галёша латкай.

Цяпер намажце латку і пашкоджанае месца гумавым клеем, дайце клею крыху падсохнуць (гэта зойме 15—20 мінут), намажце другі раз, акуратна прыкладзіце латку і моцна прыцісніце яе да парванага месца.

Праз гадзіну боты можна надзяваць і смела шлёпаць у іх па лужах.

Дарэчы, для таго, каб гумавыя боты ў самы дажджлівы дзень выглядалі як новенькія, вымыйце іх халоднай вадою і насуха вытрыце. Бензін, шкіпінар, шчолак і нават мыла для гэтай мэты зусім не прыгодныя.



*Маленькія хітрыкі*

## ДАМАШНЯМУ МАЙСТРУ

- Нячышчаны бронзавы выраб хутка цямнее. Каб захаваць бляск, яго патрэбна патрымаць некалькі мінут у вары з невялікай колькасцю воску або парафіну, а затым насуха выцерці. Атрыманая плёнка надоўга захавае бронзу ад акіслення.
- Рукаяткі ручнога інструмента можна лёгка абцягнуць хлорвінілавай трубкай. Каб трубка разбухла, яе на 15 мінут апускаюць у ацэтон. Пасля гэтага яна лёгка надзяваецца на ручкі; а калі высахне, шчыльна іх абцягвае.
- На слоікі з дамашнімі саленнямі надзеньце гумавыя кольцы з аўтамабільнай камеры. Тады нарыхтаваныя летам прыпасы можна бяспечна перавозіць з дачы на кватэру без спецыяльнай упакоўкі. Кольцы захаваюць банкі і дома ад выпадковага ўдару.
- У якасці бірулькі замацуйце да ключоў клямар ад падцяжак. Зашчаміўшы яго за кішэню, вы будзеце гарантаваны ад страты ключоў. Гэтая парада асабліва спатрэбіцца тым, каму прыходзіцца шмат рухацца і нагінацца: грыбнікам, турыстам, садаводам і, зразумела, дзецям.
- Афарбоўку цяжкадаступных месцаў – карнізаў, балконаў і г.д. палегчыць сагнутая пад вуглом трубка, у якую ўстаўляюць пэндзаль. Трубку можна ўзяць, напрыклад, ад каркаса старой раскладушкі.
- Карыстацца вымяральнай рулеткай бедзе зручней, калі на металічную стужку шчыльна надзець кальцо, адрэзанае ад хлорвінілавай трубкі. Рухаючы кальцо па стужцы, можна зафіксаваць выбраную велічыню. Гэта пазбавіць ад неабходнасці запамінаць яе.
- Як у стандартнай рамцы 24x36 мм трывала замацаваць дыяпазітыў 18x24 мм? З празрыстай фотаплёнкі выражце 2 прамавугольнікі па памеру стандартнай рамкі, паміж імі пакладзіце маленькі дыяпазітыў і ўстаўце ў рамку. Клеіць нічога не трэба.
- З выкарыстанага стрыжня ад шарыкавай ручкі атрымліваюцца добрыя заклёпкі для злучэння пластыку, скуры і тканін. У адтуліну ўстаўляюць кавалак трубкі і аплаўляюць яго з двух бакоў. Роўныя аднолькавыя галоўкі атрымліваюць з дапамогай апраўкі, якую прыціскаюць да разагрэтай трубкі.
- Каб нумары тэлефона, якімі часцей за ўсё карыстаюцца, былі пад рукой, выпішыце іх на паперу і прыклейце лісток на дно тэлефоннага апарата.
- Люстэрка ў ванным пакоі не будзе пацець, калі папырскаць яго аэразоллю для аўтамабільнага шкла.
- Круглая аптэчная рызінка, якую надзяваюць на ручкі пласкагубцаў, ператварае іх у імправізаваныя ціскі, вельмі зручныя для пайкі дробных рэчаў і радыёдэталяў.
- Начнік на неонавых лямпах (той, што без правадоў уключаецца ў разетку) можна выкарыстаць як фоталіхтар пры пячатанні здымкаў.
- Лязо бяспечнай брытвы, якое накладваюць на старонку з машынапісным тэкстам, дае магчымасць акуратна выцерці праз прапразь 1–2 літары, не закрануўшы астатнія.
- Бутэлькі ёмістасцю 0,5 і 0,75 л з коркамі на разьбе часта выкарыстоўваюць для захоўвання хімрэактываў, растваральніку, алею і г.д. Аднак разьба металічных коркаў хутка зношваецца. Можна замяніць металічныя коркі пластмасавымі ад флаконаў для тушы і чарніла. Разьба ў тых і другіх аднолькавая.
- Калі на лязо нажніц нанесці шкалу, то гэта дасць магчымасць рэзаць матэрыял толькі на патрэбную велічыню без папярэдняга вымярэння па лінейцы або сантыметровай стужцы. Гэта простае прыстасаванне можа прынесці вялікую карысць краўцам, пераплётчыкам, фатографам і інш.



*Наш дом*

## ЗЛАКІ Ў ГАРШКУ

Зялёныя "палі" ў гліняных гаршках — альтэрнатыва (і вельмі танная) пакаёвым раслінам. Каб "пасеяць" зярняты, вам спатрэбяцца гаршкі для кветак з земляной сумессю і насенне пшаніцы, ячменю, аўса, жыта. Можна паэксперыментаваць і з іншымі злакамі, напрыклад, просам або кормам для птушак — сумессю розных сартоў. Насенне пасейце і пакрыйце зямлёй таўшчынёй у 2 см. Самае галоўнае — вада, цяпло, святло і крыху цярплівасці. Вада мае своеасаблівае значэнне:каб прарасці аднаму зярнятку пшаніцы, трэба вады ў паўтара раза болей, чым яго ўласны аб'ём. Для паліву лепей выкарыстоўваць не лейку, а пульверызатар...

Збожжавыя цудоўна выглядаюць, калі ўжо сфарміравалася рознае калоссе. З мая па кастрычнік гаршкі з раслінамі можна вынесці на балкон, а ўзімку іх трэба трымаць на сонечным месцы ля акна. Парада: "сажніце", высушыце спелае калоссе і пастаўце ў збаны.

Часопіс "Бурда".

# БЯРЫ ШЫНЕЛЬ, ПАЙШЛІ ДАМОЎ?!

## А калі яго няма, куды ісці?

Нядаўняя паездка ў адну воінскую часць дала магчымасць непасрэдна сутыкнуцца з сённяшнімі "болевымі кропкамі" арміі праз лёсы маладых афіцэраў.

Старшы лейтэнант Дзмітрый Дудзін родам са Слуцка. Пасля заканчэння ваеннага вучылішча ПВА тры гады назад па размеркаванню трапіў у суседнюю Латвію. Назначылі на пасаду па спецыяльнасці, выдзелілі сям'і кватэру ў воінскім гарадку. Карацей, усё ў яго жыцці складвалася быццам бы нябагата. Але адбыліся вялікія змены ў былым Саюзе і Узброеных Сілах, у выніку якіх малады афіцэр набыў крыўдную мянушку "акупант"...

Падобны пачатак афіцэрскай біяграфіі і ў выпускніка МВІЗРВ ПВА мінчаніна старшага лейтэнанта Артура Карпінскага. Па выпуску яго накіравалі ў раней дружалюбную Эстонію, дзе назначылі на пасаду ваеннага інжынера. Аднак планам афіцэра, на жаль, не суджана было ажыццявіцца.

Жыццё прымусіла гэтых афіцэраў шукаць выратавання на роднай зямлі. З вялікімі цяжкасцямі Дудзіну і Карпінскаму ўдалося дабіцца пераводу ў Беларусь, дзе ішло фарміраванне рэспубліканскіх Узброеных Сіл. Аднак асаблівай палёгкі не адчувалася. Чаму?

— На жаль, у штабе злучэння нас сустрэлі без асаблівай радасці. Мы былі не першыя, бо жадаючых перавесціся ў Беларусь дастаткова,— сумна растлумачыў старшы лейтэнант Д. Дудзін.— Вакантных пасад у часцях пакуль няма і нават невядома калі з'явяцца. А падобная няўпэўненасць, самі разумееце, моцна прыгнятае...

— Мне крыху прасцей, чым Дзмітрыю,— працягвае нашу размову старшы лейтэнант А. Карпінскі.— У мяне хоць бацькі жывуць у Мінску, у якіх цяпер жыву з жонкай і сынам. Але я таксама знаходжуся па-за штатам. Гатовы пайсці на любую пасаду, але пакуль нічога не прапаноўваюць.

Два розныя чалавекі, а лёсы на дзіва падобныя. Такіх афіцэраў і прапаршчыкаў — ураджэнцаў Беларусі, якія жадаюць служыць на радзіме, ва ўпраўленні кадраў МА РБ налічваецца каля пяці тысяч. Дзе ж іх усіх размясціць у бліжэйшы час? Думаю, што дакладна адказаць на гэтае пытанне не змогуць і самі работнікі кадравых органаў. А тут яшчэ ў газеце "Красная звезда" паведамілі, што ў гэтым годзе плануецца прыбыццё 4523 лейтэнантаў — выпускнікоў ваенных вучылішчаў і больш за сто выпускнікоў акадэмій СНД у нашу рэспубліку. І ўсіх іх паабяцалі прыняць, праўда, з некаторай агаворкай. Па прычыне таго, што вакантных пасад у нізавым звяне (камандзір узвода — начальнік разліку) на ўсіх не хапае, дык лейтэнантаў хіба што будуць назначаць... камандзірамі танкаў (на сяржанцкія пасады)!? Так што без работы, як запэўніў начальнік упраўлення кадраў МА РБ палкоўнік Іван Зубко, яны не застануцца. Як гаворыцца, маладым лейтэнантам лягчэй — іх хоць бы нечым абнадзейваюць. А як, скажыце, быць тым тысячам афіцэраў і прапаршчыкаў, якія павінны трапіць пад скарачэнне?

Па першапачатковых прагнозах урада і Мінабароны рэспублікі планавалася давесці колькасць рэспубліканскіх Узброеных Сіл да 90—100 тысяч чалавек, для чаго патрабавалася на працягу першага этапа (4—5 гадоў) рэфарміравання звольніць з арміі 20—22 тысячы афіцэраў і прапаршчыкаў. Пры гэтым з самых высокіх трыбун прагучалі гучныя заявы, што працэс скарачэння будзе праходзіць цывілізавана і гуманна: маеш не менш за 15 гадоў выслугі — атрымлівай пенсію ў 40 працэнтаў, няма жылля — вось табе запаветны ордэр на кватэру...

Праз некаторы час планы рэзка змяніліся. Урад, падлічыўшы чакаемыя затраты на ваенныя патрэбы, вырашыў абмежаваць колькасць беларускай арміі да 60 тысяч чалавек, а значыцца і звольніць давядзецца ўжо каля 30 тысяч афіцэраў і прапаршчыкаў. А вось ранейшых сацыяльных гарантый скарачаемым, на жаль, ніхто даць не можа. Што гэта значыць? А тое, што некалькі дзесяткаў тысяч ваеннаслужачых некарэнных нацыянальнасцей могуць у бліжэйшы час стаць пенсіянерамі ў самым росквіце гадоў і сіл, а іх сем'і могуць застацца без абяцаных кватэр.

Сапраўды, за семдзесят з лішнім гадоў існавання ранейшай таталітарнай дзяржавы ўсе прывыклі, што людзі ў пагонах бесспрэчна выконваюць загады зверху і стойка пераносяць цяжар службы. Але перамены, што адбыліся ў апошнія гады ў грамадстве, адбіліся і на ваеннаслужачых. Яны больш не жадаюць заставацца паслухмянымі "алавянымі" салдацікамі, хочуць мець права не толькі на працу. Афіцэры і прапаршчыкі, аддаўшыя нямала гадоў і здароўя справе абароны Айчыны (у тым ліку і Рэспублікі Беларусь), без сумнення, заслугоўваюць да сябе чалавечых адносін. А не таго, каб у адзін цудоўны дзень разам з сям'ёй апынуцца на вуліцы, без работы і з мінімальнай пенсіяй.

**Аляксей Безвясельны, маёр.**



*Кінаафіша*

### "НЕБЫЛІЦЫ ПРА ІВАНА"

Лепшая памяць пра акцёра – сыграныя ім ролі. Новая каляровая мастацкая кінастужка "Небыліцы пра Івана" вытворчасці Кіеўскай кінастудыі імя А.П.Даўжэнкі – памяць пра Івана Мікалайчука, хоць зняцца ў гэтым фільме ён так і не паспеў.

Акцёр, сцэнарыст, рэжысёр, ён марыў аб гэтай карціне. Сцэнарый напісаў даўно, сам спадзяваўся паставіць фільм і сыграць галоўную ролю, але сцэнарый зацверджваўся і рухаўся доўгіх шэсць гадоў. За Мікалайчука працу скончылі яго сябры – рэжысёр Барыс Іўчанка, аператар Юрый Гармаш, акцёр Іван Гаўрылюк...

Герой фільма Іван Каліта – зборны вобраз, які ўвабраў у сябе лепшыя рысы ўкраінскага характару. Гэта сапраўды народны герой, які выйшаў з яго асяроддзя і ўсклаў на сябе місію барацьбіта за справядлівасць. Не заўсёды гэта барацьба заканчваецца перамогай, але Іван не страчвае надзею і кожны раз зноў кідаецца ў бой. А зброя яго – дабрыня, самаахвярнасць, і Вялікі Смех, які таіць у сабе мудрую хітрынку і з'едлівы, "салёны" жарт, і філасофскую прытчу.

У галоўных ролях заняты таксама Канстанцін Сцепанкоў, Барыслаў Брандукоў, Стэфанія Станюта, Фёдар Стрыгун, Лесь Сярдзюк, Таісія Літвіненка.

### "ДЗІКІ ПЛЯЖ"

Гэты новы каляровы мастацкі фільм таксама зняты на Кіеўскай кінастудыі імя А.П.Даўжэнкі. Аўтар сцэнарыя – Віталій Маскаленка, рэжысёр-пастаноўшчык – Наталля Кіракозава.

Дзеянне гэтай кінадрамы разгортваецца на пустынным марскім беразе, дзе кампанія маладых хлопцаў згвалтавала жанчыну.

Хто ж супрацьстаіць у фільме гэтаму разгулу інстынктаў? На жаль, толькі хворыя, разумова і фізічна непаўнацэнныя людзі. Адзін з такіх персанажаў – самы малодшы з кампаніі, які прысутнічаў пры згвалтаванні. Але яго пратэст – (непрытомнасць) – вынік убачанага і перажытага. А другі – сапраўдны звар'яцелы, варты жалю стары, на вачах якога і адбылася гэтая драма. Яго ўражліва іграе вядомы кінадраматург Віктар Мярэжка.

Цікава праводзяць свае ролі таксама Андрэй Панамароў, Алена Унукава, Аляксей Гуськоў, Ігар Граматыкаў.

### "МАЛПА, ЯКАЯ РАЗМАЎЛЯЕ"

Так называецца новая каляровая мастацкая кінастужка, створаная рэжысёрам Георгіем Аўчарэнкам на кінастудыі "Фенікс-фільм" (пры ўдзеле "Масфільма") па сваёму сцэнарыю.

Фільм адрасаваны ўсім тым, каму надакучылі "чарнуха" і "парнуха", каму нагналі аскому псеўдасур'ёзныя "праблемныя" карціны, усім, хто любіць жывёл, – ад свойскіх да самых экзатычных, усім, хто жадае адпачыць і пасмяяцца.

Карціна працягвае тэму ўзаемаадносін людзей і жывёл, заяўленую Георгіем Аўчарэнкам у тэлефільме "Вялікі ўтаймавальнік".

...Прыгожая, кемлівая малпа па мянушцы Ной трапляе ў рукі мафіёзнай групоўкі, якая займаецца заабізнесам... У фільме занята цэлае сузор'е папулярных кінаакцёраў – Армэн Джыгарханян, Барыс Новікаў, Валерый Залатухін, Віктар Ільічоў, Людміла Нільская, Таццяна Догілева, Аляксандр Лянькоў, Юрый Мядзведзеў.

### "ЗАЛАТАЯ ШПАГА"

Гэта новая каляровая сучасная фантастычная казка створана на кінастудыі "Масфільм" рэжысёрамі Генадзем Шумскім і Станіславам Сакаловым па сцэнарыю, які напісаны імі ў садружнасці з вядомым кінадраматургам Аляксандрам Аляксандравым. Фільм спалучае ў сабе элементы ігравога кіно і мультыплікацыі. Гераіня, дзевяцігадовая Шурачка, знаёміцца з прынцам – эльфам, які валодае залатой шпагай, надзеленай цудадзейнай сілай... Шчыра, з вялікім пачуццём такту стваральнікі карціны гавораць пра першыя цяжкія крокі станаўлення асобы, пра сяброўства і здраду, каханне і нянавісць, карыслівасць і шчодрасць.

Галоўных герояў іграюць Алена Логінава, марыяна Кудраўцава, Рома Смірноў, Саша Гіцін, Варвара Сашальская, Дар'я Міхайлава.

### "СТУДЭНТКА"

Многія лічаць, што гэта каляровая франка-італьянская мастацкая кінакарціна з'яўляецца трэцяй часткай фільма "Бум". Той жа рэжысёр – Клод Пінота. Актрыса – больш сталая і стаўшая прызнанай "зоркай" Сафі Марсо – таксама. І зноў – гісторыя кахання, толькі ўжо не школьнага, а, як сведчыць назва, студэнцкага.

Што ж, у мэтах рэкламы праводзіць думку аб сувязі "Студэнткі" з "Бумамі" вельмі карысна – гэта будзе служыць павелічэнню колькасці гледачоў, якія змогуць убачыць гэты твор. Але, вядома, глыбокай, мастацкай сувязі паміж гэтымі карцінамі няма. У "Студэнтцы" адсутнічае лёгкасць, зграбнасць, чароўная дураслівасць, якія перапаўняюць першы фільм серыяла (будзем лічыць яго такім). Драма кахання разыграна цяжка, усур'ёз, з надрывам...

Але, па-першае, гераіня ўжо выйшла са школьнага ўзросту. А па-другое, наш глядач, якому падабаюцца жахлівыя душараздзіраючыя меладрамы, можа прыхільна аднесціся і да гэтай кінагісторыі.

Дзяжурны рэдактар А. ПАЛЫНСКІ.

Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА

ЧЫРВОНАЯ Змена

Заснавальнік: ЦК СМБ
Выдавец: газетна-выдавецкая фірма "Белая Русь"
Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.
АДРАС рэдакцыі: 220041, г.Мінск, праспект Скарыны, 77.
ТЭЛЕФОНЫ: 32-13-54, 32-50-01.

Газета набрана і зверстана ў наборна-выдавецкім бюро "ЧЗ".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", г. Мінск.
Індэкс 63906. Тыраж 17 000.



Зак. № 33
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12